PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 45 (2008) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 6 ЛІСТАПАДА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## НЕПАСЕДЛІВЫ ЧАЛАВЕК

Арлянскага войта **Міхала Іванчука** цяжка спаткаць у Гміннай управе. Усё ён у раз'ездах, усё нешта афармляе, даглядае нейкія працы, прыглядаецца патрэбам гміны.

19 кастрычніка з Ганнай Кандрацюк сустракаем яго каля сінагогі. Якраз муравалі вакол яе агароджу.

— Каб сюды бетонамяшалку, — наракае адзін з рабочых, — то я сам за паўдня ўсе слупкі паставіў бы, а так „крахмалімся" тутака.

— Гэта інтэрвенцыйныя працы, — паясняе спадар Іванчук. — Хочам каля сінагогі зрабіць усё, што ў нашай моцы, каб неяк выглядала і каб забяспечыць аб'ект ад раскрадання. Сам будынак з'яўляецца ўласнасцю скарбу дзяржавы, апякуецца ім ваяводскі рэстаўратар помнікаў культуры. Можа знойдзе ён некалькі дзесяткаў мільёнаў, каб давесці работы да канца. З гэтай справай быў я ўжо тры разы ў пасольстве Ізраіля, але яны толькі прыедуць, паглядзяць і ўсё. А тут патрэбны пастаянны клопат аб гэтым помніку.



*Міхал Іванчук — войт гміны Орля.*

Спадар Іванчук вядзе нас у гміну і пацірае рукі. Добра, што вы прыехалі, я і вас выкарыстаю. Але пакуль „выкарыстаць", паказвае рамонт у будынку Гміннай управы, а потым, за гарбаткай, расказвае, чым жыве гміна.

— Мне часта арлянцы ставілі закід, што я занадта цікаўлюся навакольнымі вёскамі, а замала самой Орляй. Але я проста аднолькава гляджу на ўсіх і стараюся ў першую чаргу развязваць істотныя праблемы, без аглядкі, ці будзе гэта ў Орлі, ці ў нейкай самай маленькай вёсачцы. Не то, што раней было — Орля найважнейшая, як то кажуць, „Наша Вуорля, наш Іван". І так, найперш пракладаем мы дарогі і водаправоды. Засталіся ў нас толькі тры непадключаныя да водаправода вёскі: Волька, Рудуты і Паўлінова. Давесці туды ваду можна на працягу года. А дарогі ў нас можа і найлепшыя ў цэлым ваяводстве. Хаця часам хваліцца не трэба, бо тады цяжэй атрымаць датацыі — як я называю, пасаг. А так, пачынаючы якую інвестыцыю, плапачаш дзе трэба і ў „пасагу" можна дастаць адну трэцюю сродкаў. Астатнія кошты можам па палове раскласці на бюджэт гміны і гаспадароў, і зроблена.

Мая рэдакцыйная сяброўка пытае пра мясцовы хор, якому праз год споўніцца 50 гадоў.

— Я вельмі рады, што нашы дзяўчаты спяваюць, бо без іх была б культурная пустыня. Я заўсёды буду падтрымліваць беларускую культуру. Хаця мяне ў бельскі белліцэй не прынялі, але літаратурную мову вывучыў я ад жонкі і ад сына. Я дапамагаў хору і з інструктарамі, хаця апошнім часам атрымаліся непаразуменні з Сасновічам. Мне вельмі забалела тое, што ён на мяне гаварыў па радыё. Каб не я, дык ён увогуле тут не працаваў бы і нават не меў бы дзе жыць. Вось як ёсць, дапамажы чалавеку, то потым толькі ворагаў нажывеш. Але я думаю, што з хорам мы неяк паладзім. Мне хацелася б сцягнуць з Бельска нашу зямлячку Аліну Нігярэвіч, якая бельскія „Васілёчкі" вядзе.

— У вас камендант паліцыі спявак, — далучаюся я.

— А так, Юрка Харкевіч у „Маланцы" спявае. Я яму ўжо казаў, разбою ў нас няма, то займіся культурай. Але, відаць, ён нашых дзяўчат баіцца, бо да хору не прыстаў.

І так дайшлі мы да „выкарыстання" нас спадаром Іванчуком.

— У нас у Алякшах ёсць станцыя помпаў. Кіраўнік бельскага Санэпіду (санітарна-эпідэміялагічнай станцыі — М.В.) Анна Тапалеўская сцвярджае, што там найлепшая вада ва ўсім раёне. Патрэбны нам чалавек з галавою і капіталам і можна было б у нас сваю „Крынку" рабіць. Гміна дапаможа, наконт падаткаў дагаворымся, чалавек заробіць, нашым беспрацоўным занятак будзе. Усім будзе карысць. Чакаю прапаноў. Гэта адна справа, а другая такая — у нас 40 гектараў высакаякаснай гліны. Таксама чакаем чалавека, які зоймецца яе здабыччу і перапрацоўкай.

Я ўжо гаварыў з адным чалавекам, які хоча адкрыць прадпрыемства па перапрацоўцы рыбы. Абяцае ён працу 60 асобам. Пабачым. Я думаю, што з цягам часу развінецца ў нас агратурыстыка. Маем дзеля гэтага прыгожыя будынкі колішніх школ у Пашкоўшчыне, Крывой ці тут, у Орлі. Думаю, што знойдзем ім выкарыстанне.

Калі гаворым пра планы, Міхал Іванчук падкрэслівае, што войтам Орлі стаў не дзеля нейкай кар'еры.

— Я працаваў у розных мясцовасцях, можна сказаць, што скалясіў усё ваяводства. Да сваіх людзей (М. Іванчук родам з Маліннік, што ў Арлянскай гміне — М.В.) вярнуўся я з думкай зрабіць усё, каб не адчувалі яны сябе ў горшым становішчы, чымсьці жыхары іншых раёнаў. Стараюся сваёй працай дабіцца таго, каб людзям у нас жылося не горш, чым дзе ў іншай аколіцы.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**

## Атручаны край

Дубічы-Царкоўныя — самая небагатая ў сваім наваколлі гміна. Школ у ёй агулам чатыры: у самых Дубічах, Старым Корніне, Грабаўцы і Старыне. Працуюць толькі тры першыя, у якіх вучыцца агулам каля 170 дзяцей. Школа ў Старыне — павярховая, г.зв. *тысячагодка*, — стаіць пустая. Заняткі ў ёй і шум школьнага жыцця спыніліся ў палове васьмідзесятых гадоў, пасля чаго будынак на ўласнасць пераняла Дубіцкая гміна. Будынак прыгожа распалажаны на краю сяла, навокал пушча. Прасторны школьны пляц, на ім выдзеленая пляцоўка для дзіцячых гульняў. Школа мае сваю кухню і сталовую, усё выглядае нова, быццам школа перададзена ва ўжытак не ў шэсцьдзесят шостым годзе, а ўчора. Сама Старына — мясцовасць невялікая, будзе якіхсьці васемнаццаць гаспадарак. Пенсіянераў значна больш, але пра іхні лік найлепш запытаць пісьманосца, параілі мне. У наваколлі шмат маленькіх паселішчаў. Ад мясцовых пачуў я, што *тысячагодка* ў Старыне будавалася з думкай пра дастасаванне на патрэбы вайсковай бальніцы. Нічога дзіўнага — у той час кожная інвестыцыя разглядалася абавязкова і ў аспекце мілітарнага канфлікту. Да гранічнай паласы са Старыны, калі напрасткі, будзе якіх 500 метраў, а значыць вёска знаходзілася тады ў прыфрантавой зоне Савецкага Саюза.

Штосьці з гэтай думкі дзяржаўных кіраўнікоў пра бальніцу ў Старыне датрывала і да нашага часу, бо вось 10 кастрычніка г.г. у школе ў Старыне пасяліліся на лячэбны адпачынак 34 дзяцей з Салігорска з Беларусі. Разам з ім прыехаў лекар, медсястра, масажысты і педагогі. Дзеці ва ўзросце ад сямі да трынаццаці гадоў. У Старыне былі да канца кастрычніка.

— Усё гэтае мерпрыемства — паведаміла сакратар Дубіцкай гміны Галіна Шыманюк, — арганізавалася па ініцыятыве старшыні Гміннай рады ў Дубічах Сяргея Нічыпарука. Ён мае свае кантакты ў Беларусі, займаецца гаспадарчай дзейнасцю і менавіта ён арганізаваў прыезд групы ў нашу гміну. Цяпер дзяцей фармальна прымае Управа гміны, але ёсць намаганне, каб стварыць у нас фонд „Жыццё" ды пад яе шыльдай праводзіць такую дзейнасць. Справа заснавання фонду мела разглядацца на пасяджэнні гміннай рады 28 кастрычніка.

Дзеці і іхнія апекуны наведалі ўжо Кляшчэлі, дзе мелі сустрэчу з мясцовай моладдзю, гайнаўскі беларускі ліцэй, а таксама Беласток, дзе прыняў іх архіепіскап Сава (ён жа кампенсаваў групе 3 мільёны злотых як зварот коштаў транспарту). У плане заставаліся яшчэ экскурсія ў Белавежу і гайнаўскі музей. З гміннага боку дзеткамі апякуецца Іаланта Соха, кіраўнічка Гміннага асяродка культуры, якая на час прабывання дзяцей перасялілася ў старынаўскую *тысячагодку.* Заняткі з дзеткамі праводзіць таксама Міраслава Семянюк-Мараўская, а дапамагае ёй Канстанцін Качко.

Кіраўніком дзіцячай групы з'яўляецца Яўген Шмерка. Прашу ў гэтым месцы ў спадара Яўгена прабачэння, калі не пераліч тут усіх яго медыцынскіх спецыялізацый. Скажу толькі, што з'яўляецца ён прызнаным фітатэрапеўтам (лячэнне зёлкамі), педыятрам, масажыстам, але таксама і ліквідатарам узрыву на АЭС „Чалябінск-40" (так, так, не Чарнобыля) — ядзерную хімію вывучаў у лабараторыі Курчатава. З'яўляецца ён аўтарам выдадзенай у Польшчы кнігі „Зёлкі і здароўе". Акрамя гэтага — ён старшыня міжнароднай гуманітарнай арганізацыі Дзіцячы проціалергічны фітацэнтр у Менску.

*Працяг на стар. 3*

# Атручаны край

*Працяг са стар. 1*

— Сюды прыехалі дзеці з Салігорска, — сказаў Я. Шмерка. — Дзеці першымі зрэагоўваюць на жыццё ў экстрэмальных умовах — атручаным асяроддзі. Выяўляецца гэта ў алергіях, нервовых захворваннях, фізічнай і псіхічнай павяраджанасці нованароджаных ды агульным зніжэнні імунітэту (абарончай сілы арганізму). Салігорскія дзеткі, з увагі на шахты, асабліва падвяргаюцца гэтым крайнім умовам. Да ўсяго даходзіць яшчэ чарнобыльская справа.

Салігорск — свайго роду штучны горад, пабудаваны з увагі на залежы мінеральнай солі. Аснова горада — шахты, але яны адначасна і яго няшчасце. У наваколлі цэлымі кіламетрамі цягнуцца горы адпадаў з тых жа шахтаў, вышынёю ў 800 метраў. Калі ідзе дождж, плыве з іх у чалавечыя паселішчы калійная соль, калі дзьме вецер — усё падымаецца з пылам у паветра і асядае на дамы і людзей. Вада чырвонага колеру, а яе крыніцы наскрозь атручаныя, зямля такая ж. Ні кавалка чыстага грунту. У такіх умовах людзям трэба жыць.

— Выратаваць чалавека можа толькі прырода, якая нераз ужо гэта рабіла. Яна гатова зрабіць гэта і яшчэ раз. На шчасце захаваліся яшчэ чыстыя воды, не пасыпаныя хімікатамі лясы. Працягні руку і ты будзеш жыць, — сказаў Яўген Шмерка. — Ва ўсім свеце адыходзіцца ўжо ад таблетачнага лячэння. Яно разлічана толькі на вонкавую дапамогу — здымае боль, у той час, калі чалавек хварэе надалей. Лячэнне павінна праходзіць штодзённа, кожную хвіліну — на яго складаецца чыстае харчаванне, паветра, ванна, агульная культура жыцця. З прыемнасцю трэба сцвердзіць, што вы, пры мінімальных накладах, усё гэта ў сябе зберагілі. Калі мы выязджалі, нам сказалі: *Ну, смотрите, как там з вами поляки...* Але мы ўжо былі ў Беластоку, Гайнаўцы, Кляшчэлях — усюды нас ветліва сустракалі і цяпер мы будзем выязджаць з *другим мнением*.

Апекуны рабілі ўсё, каб дзеткі максімальна доўга прабывалі на паветры — нават да 10 гадзін. У Старыне спрыяльнае наваколле — пушча, асенняя пара, багата кіслароду і азону. Дзеткі збіралі ў лесе зёлкі, рабілі з іх гарбаткі, настоі, кампрэсы. У той жа час мусілі нармальна вучыцца, каб не было перабою ў школьных ведах. Перад выездам ва ўсіх іх бралі кроў на імунітэт і сліну на бактэрыйную флору. Такі ж дослед будзе праведзены пасля вяртання ў Беларусь дзеля апрацавання вынікаў лячэння. Рапарт будзе прадстаўлены навуковым інстытутам ды кіраўніцтву калійнага камбіната ў Салігорску. Вынікі, паводле Яўгена Шмеркі, ужо відочныя. Дзеці сталі больш жвавымі, перасталі ў іх балець жываты, крывавіць дзясны... Яўген Шмерка думае пра круглагадовы цыкл лячэбных выездаў у Польшчу. Дзеля гэтага мае быць падпісана пагадненне з кіраўніцтвам Дубіцкай гміны. Пасля года, плануе Я. Шмерка, трэба наладзіць навуковую канферэнцыю, прысвечаную вынікам гэтых лячэбных даследаванняў.

— Увесь свет глядзіць на нас, — заключыў Яўген Шмерка, — як мы выратуем сваю нацыю. А мы ўсё *карабкаемся*, спадзеючыся, што дапамога сама аднекуль прыйдзе...

Набліжаемся да канца стагоддзя, у якім тэхніка і ўся пабудаваная чалавекам інфраструктура мела яму служыць. Атрымалася, як паказвае прыклад Беларусі, далёка не так. У выпадку той жа Беларусі турботу за лёс маладога пакалення, а значыць і нацыі, выяўляюць перад усім навукоўцы. Яны пачынаюць біць трывогу ды шукаць дарог выхаду. Практыка, аднак, паказвае, што надалей спакойна праводзіцца дзікі эксперымент. Далей цякуць у рэчкі радыёнукліды, людзі гэта п'юць, ядуць рыбу, а ўсякія псеўдаінстытуты патаемна даследуюць, як зрэагуе чалавечы арганізм. Уся надзея быццам у чыстай зямлі і паветры, але і тыя ж атручаны...

**Аляксандр Максімюк**
**Фота аўтара**



*Дзеткі сталі больш жвавымі.*




**Высокапаважаны Спадар Міранові́ч!**

Я думаю, што мой ліст застане Вас і Вашых калег на працы на ніве адраджэння пры моцным стане духа і добрым здароўі, што сама важнае ў жыцці.

Прайшло добрых пару месяцаў ад апошняга ліста, але так і не дачакаўся адказу адносна майго дзядзькі, які праўдападобна пахаваны ў Ваўкавыску. Называўся ён Гуз Аляксандр Сямёнавіч. Праўдападобна ён ехаў у Гродна з шафёрам на прыём новай працы, якую яму там прапанавалі. З шафёрам пайшоў ён з моста ў рэчку, так як не было ланцугоў на машыне, і так загінулі. Ён быў у чыне маёра савецкай арміі. Мне б хацелася больш ведаць пра само трагічнае здарэнне і месца пахавання.

Шчыра дзякую за змяшчэнне ў „Ніве" артыкулаў: аб дзецях Чарнобыля і М.Зуя аб Кангрэсе. Цяпер дасылаем Вам прывітанне і пажаданні ў гонар надыходзячых смутных свят у нашым календары — 74 угодкаў Слуцкага збройнага чыну ў 1920 г., якія прыпомняць нашую змагарную гісторыю ў многіх сэрцах, дзе яшчэ гарыць змагарная іскра.

Цяпер гэтаксама прашу Вас паведаміць, якім шляхам можна выпісаць газету „Ніва" на наступны год, бо праз Варшаву хочуць 150 амерыканскіх доляраў, а гэта мне, пенсіянеру, не пад сілу.

Вітаем Вас і ўсіх беларусаў Беласточчыны. Плённай працы на карысць нашай Беларусі, жадаюць Вам беларусы, згуртаваныя ў Федэральнай Радзе Беларускіх Арганізацый.

Жыве Беларусь!

**Паўлюк Гуз,**
**Аўстралія**

**Ад рэдакцыі**: Усіх чытачоў „Нівы", а асабліва сяброў з Гродна просім дапамагчы спадару Паўлу Гузу высвятліць лёс яго дзядзькі Аляксандра. Інфармацыі просім кіраваць на адрас „Нівы", а мы пашлем іх у Аўстралію.

Адначасова інфармуем спадара Паўла Гуза і ўсіх іншых чытачоў, якія маюць праблемы з падпіскай на наш тыднёвік, што любую суму грошай можна даслаць на рахунак рэдакцыі (змешчаны на 11 старонцы), а мы будзем па пошце высылаць „Ніву" на адрас кожнага чытача, пакуль хопіць гэтай сумы на кошт паштовай маркі і газеты.

На сённяшні дзень афармленая ў рэдакцыі гадавая падпіска „Нівы" (52 нумары) ў Аўстралію каштуе 95 доляраў ЗША (у тым ліку кошт паштовай паслугі складае 82 дол. ЗША).

З рэдакцыі „Ніву" можам пачаць высылаць у любы момант, згодна з жаданнем чытача.

# ПРАБОРКА

Перад вайною жыў у нас дзядзька Емяльян, чалавек прысадзісты і дужы. Меў ён на „Задах" каля Карыціск участак хваіны, за якім пільна сачыў. І вось аднойчы прыкмеціў ён, што нейкі браканьер панастаўляў у ягоным лесе пастак на лясную звярыну. Рашыў прыпільнаваць і злавіць жуліка. Так і зрабіў: застаўся ў лясным гушчары і чакае аматара лёгкай нажывы. Быў ціхі, зімовы дзень і кожны шорах было чуваць далёка. Чуе дзядзька Емяльян, што нехта асцярожна ідзе. Глядзіць — а гэта бамбіза з Карыціск з самаробным абрэзам нахіляецца над пасткай. Дзядзька ўцешыўся, што не на слабога трапіў і будзе на кім пагрэць кулакі і выскачыў з гушчара. Бамбіза даў драпака і, каб лягчэй было ўцякаць, шпурнуў абрэз за куст ядлоўцу. Аднак Емяльян яго дагнаў і давай лупцаваць, што аж рэха неслася па лесе, а другое рэха — ад стогну браканьера. Калі ад лупцавання рукі ў дзядзькі Емяльяна забалелі, ухапіў ён бамбізу за шыварат і павалок туды, дзе ляжала пакінутае ружжо, узяў абрэз і давай ім грэць па спіне браканьера. Нарэшце прыгрэў наском па задзе, аж бамбіза носам сваім урэзаўся ў гурбу снегу. Калі „ўрок" закончыўся, дзядзька Емяльян пригразіў браканьеру, што падасць яго ў суд. Абрэз жуліку не вярнуў і ў суд яго не падаваў, бо гэтай прачуханкі хапіла браканьеру на ўсё жыццё: больш ён пастак у лесе не ставіў. Прыдаліся б і сёння такія „дзядзькі Емельяны", якія мелі б на браканьераў сваю руку і свой суд. Надта многа развялося ў нас розных жулікаў, якія нішчаць жывую прыроду.

**Мікалай Панфілюк**

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# Пра першадрукароў

У бягучым годзе спаўняецца 425-годдзе выхаду ў свет першай на Падляшшы кніжкі рускага і беларускага першадрукароў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, якія ў выніку рэлігійна-рэлігійных непаразуменняў пакінулі Маскву і перасяліліся ў маёнтак гетмана Вялікага княства Літоўскага Рыгора Хадкевіча ў Заблудаве. Тут яны заснавалі друкарню і ў 1568-69 гадах выдалі „Евангелие учительное", а ў 1569-70 гадах — „Псалтыр с Часословцем".

Першая кніга мела 408 лістоў фармату 31 x 19,4 см. Да сёння захаваліся ў бібліятэках былога СССР, Польшчы і іншых краін 44 яе экземпляры.

Другая — налічвала 377 лістоў фармату 16,8 x 13 см, а захавалася ўсяго толькі тры яе паасобнікі. Абедзве кнігі залічваюцца да найпрыгажэйшых тагачасных выданняў. Мастацка выкананы шрыфт, гравюры (віньеткі, ініцыялы, застаўкі) і цэлыя кампазіцыі служылі некалькі стагоддзяў недасягнутымі ўзорамі для беларускіх, рускіх, украінскіх і іншых славянскіх друкароў. У іх упершыню ўведзена тытульная старонка, нумарацыя лістоў, націскі, таблічны набор у двух колерах і шмат іншых новаўвядзенняў. Кніжкі былі надрукаваны на добрай імпартаванай з Германіі і з Венгрыі паперы.

**Янка Падарожнік**




### Родная хатка

У вёсцы маёй роднай,
у садзіку зялёным,
над рачулкай быстрай,
дзе жабы рагочуць,
салаўі спяваюць
стаіць домік.
У доміку каханым
кладоўка багатая,
кухня, спальня і пакой.
У кухні кафлёвая печка,
а на печцы бабуля сядзіць
і песенькі пяе.
А ля сцяны на ўслончыку
вядзерка невялічкае стаіць,
а ў ім самагоначка кіпіць!
Госця вітае здарожанага,
развяселіць, стукне ў галоўку!
А бабуля сядзіць і кубкамі
самагонку халодную налівае
і гісторыі распавядае...

**Пятро Дубіцкі**

І так бывае

### ПАКАЗАЛА НЕГРА ПАЛЬЦАМ

Аднойчы ў Гайнаўцы на аўтобусным вакзале нейкая жанчына, паказаўшы пальцам на негра, сказала на гаворцы маленькаму хлопчыку:

— О-о-о! Дівісь, дівісь, сынку, мужын ідэ до автобуса!

Негр як пачуў гэта, дык адразу, агрэсіўна адрэагаваўшы, гучна ўскрыкнуў:

— A murzyn to co, małpa, że wytykasz palcem, k... jedna!? Lepiej pokaż z tatusiem dla synka, jak się robi dzieci!

Жанчына вельмі спужалася, але нейкі падвыпіўшы мужчына ўступіўся за ёю.

— Ах ты, афрыканскі Бамбо, чого страшыш бабу? — сказаў. — Як хоч, то зараз дам в морду!

Да мяне якраз падышоў знаёмы і шэптам сказаў, смеючыся да ўпаду:

— То ж то баксёр, той мужын, а достаецца вуон з Біловіежы до Білостоку.

Мы ўсе хуценька занялі месцы. У аўтобусе панаваў вясёлы настрой выкліканы гэтым здарэннем. Толькі тая жанчына з хлопчыкам дрыжэлі ад страху, хаця селі як найдалей ад негра.

Вось як можна неразважным словам і непрадуманымі паводзінамі зрабіць прыкрасць сабе і іншаму чалавеку.

**Ян Міхалюк,**
**Чыжы**

# Будзе чысцейшая вада ў рэках

Аказваецца, што рэкі, рачулкі ды ручаі ў Беластоцкім ваяводстве маюць забруджаную ваду. Толькі 5% даўжыні рэк у ваяводстве мае першы клас чысціні, 70% — другі і 14% — трэці клас, а ўжо найбруднейшыя, пазакласныя складаюць 11%. Да вельмі забруджаных рэк належаць: Нарва (ад месца, дзе прымае яна прыток Супрасль), Супрасль (ад вусця Белай), Сакалда, Лясная Правая і Крынка. Вельмі ж труцяць ваду цукровы завод у Лапах, гарбарня ў Крынках ды камунальныя прадпрыемствы ў Беластоку і Гайнаўцы.

У Беластоцкім ваяводстве семнаццаць гарадоў і толькі сем з іх маюць ачышчальні сцёкаў. Сёлета пачала працаваць ачышчальня ў Беластоку. Будзе яна прымаць сцёкі з Беластока, Васількава, Супраслі і ў недалёкай будучыні — з Харошчы. У мінулым годзе здалі ў эксплуатацыю кантэйнерныя ачышчальні сцёкаў у Ласінцы і Рудцы.

Будуюцца ачышчальні ў Кляшчэлях, Белавежы, Карыціне і ў Бранску. У Бранску забруджвае ваду малачарскае прадпрыемства. Пачалі разбудову і мадэрнізацыю камунальных ачышчальняў у Чорнай-Беластоцкай і ў Саколцы. Зараз канчаецца рамонт ачышчальні ў Дуброве-Беластоцкай.

Варта адзначыць, што ў 1994 і 1995 гадах паказчык колькасці ачышчальных сцёкаў на Беласточчыне перавысіць 80 працэнтаў!

**Янка Ляўкоўскі**

# БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЬНІЦТВА

У суботу, 22 кастрычніка г.г., у Бельску-Падляшскім адбылася навуковая канферэнцыя „Беларускае школьніцтва на Беласточчыне", арганізатарам якой выступілі Беларускае гістарычнае таварыства сумесна з Агульнаадукацыйным ліцэем імя Б. Тарашкевіча. Вялікую дапамогу аказалі таксама бельская „тройка", улады горада (наш бурмістр, Андрэй Сцепанюк, прысутнічаў на ўсёй канферэнцыі) і прыватныя ўстановы.

У першай частцы канферэнцыі прысутныя заслухалі чыста гістарычныя даклады Антона Мірановіча „Праваслаўнае школьніцтва на беларускіх землях у XVI—XVIII ст.", Алега Латышонка „Беларускае Асветніцтва" і Ірыны Матус „Царкоўна-прыхадскае школьніцтва ў Бельскім павеце ў школьным годзе 1911/12". Таксама два першыя дакладчыкі асаблівую ўвагу звярнулі на школьніцтва якраз на Беласточчыне, у сувязі з чым даклады першай часткі нарадаў стварылі падставу да разглядання навейшага перыяду ў сітуацыі беларускага школьніцтва.

У перапынку гасцей прымала абедам бельская „тройка". Абед пачаўся і скончыўся супольнай малітвай, ведзенай бельскім праваслаўным духавенствам. Адзначым пры нагодзе, што на канферэнцыі не толькі прысутнічалі бельскія святары, але свае бласлаўленне прыслаў яе арганізатарам і ўдзельнікам Яго Праасвячэнства мітрапаліт Васілій.

Другую частку нарадаў адкрыла выступленне Юзафа Сыгіта Фаранцэвіча, старшыні Супольнасці літоўцаў у Польшчы, былога дырэктара Агульнаадукацыйнага ліцэя з літоўскай мовай навучання ім. 11 Сакавіка ў Пуньску. Спадар Фаранцэвіч прадставіў гісторыю ліцэя, канцэпцыю навучання і вынікі. Яго выступленне, думаю, патрасло крыху нашымі педагогамі.

Літоўскі ліцэй пачынаў дзейнасць у 1952 г. У настаўніцкіх кадрах тады толькі адна асоба мела вышэйшую адукацыю. Цяпер усе настаўнікі ліцэя закончылі ВНУ, а вынікі навучання можна лічыць задавальняючымі.

Ю. Фаранцэвіч прывёў статыстыку, з якой вынікае, што літоўскі ліцэй у 1975—1994 гадах, калі ў Сувальскім ваяводстве дзейнічала 12 ліцэяў, ніколі не быў апошнім паводле вынікаў навучання. Асновай гэтай ацэнкі з'яўляецца працэнт выпускнікоў, прынятых у вышэйшыя навучальныя ўстановы. У гэтай статыстыцы пунькі ліцэй найніжэйшае, бо 10 месца, займаў у 1978 г. У 80-х гадах знаходзіўся ён на 4—6 месцах, а ў 90-х апынуўся нават на першым, але тут трэба ўлічыць тое, што апошнім часам значная частка абітурыентаў паступала ў ВНУ ў Літве. Сёлета, усё-такі, ніхто з вучняў не паехаў штудзіраваць у Літву.

Ацэньваючы працу ліцэя, трэба адзначыць, што прымаюцца ў яго практычна ўсе ахвотныя. Да таго амаль усе вучні гэта сялянскія дзеці, абцяжараныя абавязкамі ў бацькоўскай гаспадарцы.

Падсумоўваючы сваё выступленне, Ю. Фаранцэвіч рэзка абверг міфы, якія пашыраюцца нават у навуковай літаратуры, быццам бы навучанне на літоўскай мове адмоўна адбіваецца на агульных выніках навучання. На яго думку, старанннасць адукацыі не залежыць ад мовы. Навучанне на літоўскай мове, пры адначасным выкарыстоўванні польскіх падручнікаў, робіць вучняў поўнасцю двухмоўнымі, чаго не забяспечвае навучанне роднай мовы толькі як прадмета.

Дзякуючы станоўчаму падыходу да навучання роднай мовы, літоўцы зрабілі яго стабільным, а літоўскае школьніцтва з'яўляецца яскравым выняткам на фоне школьніцтва іншых нацыянальных меншасцяў, якое прыйшло да ліквідацыі.

Што ж тут дадаць? Беларусам застаецца толькі задумацца над самімі сабою.

У далейшым ходзе канферэнцыі Зінаіда Навіцкая прадставіла гісторыю бельскага, а Аляксандр Іванюк — гісторыю гайнаўскага ліцэяў. У сваім выступленні адмаляваў ён таксама гісторыю беларускага школьніцтва ў Гайнаўцы да ўзнікнення Агульнаадукацыйнага ліцэя ім. Каліноўскага, якая сама па сабе надзвычайна цікавая.

Дарафей Фёнік прадставіў асобу а. Канстанціна Байко, настаўніка праваслаўнай рэлігіі ў беларускіх школах у Бельску ў пасляваенны перыяд і складаны лёс гэтага святара, пацярпеўшага ад сталінскага тэрору.

Тамара Русачык прадставіла стан беларускага школьніцтва за апошнія дзесяцігоддзе (тэма да асобнай дыскусіі).

Галена Глагоўская пазнаёміла прысутных са сваім даследаваннем „Элементы гісторыі Беларусі ў падручніках для пачатковых школ". Даследчыца даказала, што гісторыі Беларусі не адводзіцца амаль зусім месца, а тое, што пра яе пішацца, стварае ўражанне ўсеагульнага хаосу.

Васіль Ляшчынскі ў сваім выступленні, якое выклікала жывую рэакцыю публікі, прадставіў пазадыдактычныя аспекты функцыянавання абедзвюх бельскіх школ, даказваючы, што беларускага элемента ў іх намнога болей, чымся толькі навучанне роднай мовы.

Славамір Іванюк выступіў з дакладам пра „БГКТ і школьніцтва з беларускай мовай у 1956—1980 гадах".

**Minister Edukacji Narodowej**

My, niżej podpisani uczestnicy konferencji naukowej "Szkolnictwo białoruskie na Białostocczyźnie" niniejszym wyrażamy protest z powodu odsunięcia przedstawicieli białoruskiej mniejszości narodowej w Polsce od udziału w pracach wspólnej komisji konsultacyjnej do spraw szkół dla polskiej mniejszości w Republice Białoruś i białoruskiej mniejszości w Rzeczypospolitej Polskiej.

W obradach tej komisji, zorganizowanych przez stronę białoruską w czerwcu 1994 r., wzięli udział przedstawiciele mniejszości polskiej na Białorusi.

Odsunięcie środowiska białoruskiego od prac tej komisji organizowanych przez stronę polską odbieramy jako jeszcze jeden dowód lekceważenia naszych problemów.

*(25 podpisów uczestników konferencji)*

Bielsk Podlaski, 22.10.1994 r.

Сесію закончыў даклад Яўгена Мірановіча пра пасляваенную палітыку ўлад у адносінах да беларускага школьніцтва на Беласточчыне.

Сесія вельмі зацягнулася, у сувязі з чым арганізатары адступілі ад зачытання дакладаў дасланых праф. Міхалам Кандрацюком і д-рам Юрым Кузьмюком. І так не хапіла б часу, бо набліжалася восьмая гадзіна вечара, а марафон доўжыўся ад гадзіны 11 (пачалі пунктуальна!).

Паколькі не стала часу на абмеркаванне гістарычнай часткі канферэнцыі, коратка падвяду вынікі так, як я іх бачу. На маю думку відаць ясна, што беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў навейшую эпоху існавала толькі ў час двух нямецкіх акупацый, пры савецкай уладзе 1939—41 гадоў ды пры народнай уладзе ў Польшчы ў гадах 1944—47 і з 1949 да пачатку шасцідзесятых (гэта значыць у час найбольшага камуністычнага прыгнёту). Калі сабе гэта ўсвядоміць, робіцца нейк дзіўна ў душы і ў галаве.

Ва ўсе іншыя перыяды, пачынаючы з XVIII ст., беларуская мова выступала толькі як прадмет навучання. У такім сэнсе сённяшнія школы, у якіх навучаецца беларуская мова, нічым не розняцца ад праваслаўных і уніяцкіх школ на гэтай тэрыторыі ў XVIII — пачатку XIX ст.

Кароткую дыскусію пасля сесіі здамінавала справа будучыні беларускага школьніцтва. У дыскусіі ўзялі голас А. Мірановіч, В. Сакоўскі, А. Іванюк, М. Голуб, Я. Вапа, Я. Мірановіч і С. Іванюк. Паколькі не хапала ўжо часу, а перш за ўсё сілы, каб давесці дыскусію да канца, прадстаўляю ніжэй толькі свае высновы.

Канферэнцыя паказала наяўна, што адбываецца працэс яднання беларускага асяроддзя, насуперак усім магчымым падзелам, вакол самай важнай справы — беларускага школьніцтва. Малодшыя дзеячы зразумелі ўжо, што не так проста ўсё робіцца, а крытыкаваныя імі раней старэйшыя перасталі гневацца. Наспеў ужо час яшчэ раз вярнуцца да справы стварэння каардынацыйнага органа, які быў бы форумам унутранай дыскусіі і які прадстаўляў бы інтарэсы беларускага школьніцтва навонкі.

На канферэнцыі прысутнічала некалькі дзесяткаў людзей, у большасці настаўнікаў. Гэта сведчыць аб тым, што ёсць дастаткова людзей, якім будучыня беларускага школьніцтва блізкая.

Прысутнічаў на канферэнцыі і сп. Ігар Хадасевіч, які выпаўняе абавязкі генеральнага консула РБ у Беластоку і Вячаслаў Мацюшэнка, сябра Сумеснай камісіі па справах школьніцтва для польскай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь і беларускай меншасці ў Рэспубліцы Польшча. Ад яго ўдзельнікі канферэнцыі даведаліся пра існаванне такой камісіі і пра тое, што збіраецца яна ў Беластоку праз два дні. У сувязі з тым прысутныя накіравалі адмысловы пратэст міністру нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Польшча, які даецца ў сярэдзіне гэтага тэксту. Змаганне за беларускую школу прадаўжаецца.

**Алег Латышонак**

P.S. Мне, як сакратару Беларускага гістарычнага таварыства не хочацца біць у свае грудзі, хаця сам бачу шмат недахопаў у праведзенай намі канферэнцыі. Таму ад імя БГТ прашу ўдзельнікаў пра самыя крытычныя водгукі. Вашыя заўвагі будуць улічаны падчас падрыхтоўкі чарговай канферэнцыі, якая адбудзецца ў гайнаўскім Беларускім ліцэі магчыма ўжо вясной наступнага года.

А.Л.

# Канадскія занатоўкі

З паловы верасня да паловы кастрычніка гэтага года мне прыйшлося пабываць у Таронта. Запрасіла мяне туды кіраўніцтва цэнтра Таронцкага універсітэта (Centre for Russian and East European Studies), які даследуе праблемы Расіі і Усходняй Еўропы, з мэтай зачытаць некалькі дакладаў на гістарычныя і сучасныя тэмы, звязаныя з лёсам беларускага народа. Мне, першаму з беларускага асяроддзя, прыйшлося выступаць перад такой публікай. Раней выступілі там такія вядомыя асобы як Міхаіл Гарбачоў, Лешак Бальцаровіч ці Аляксандр Абісала. Найбольшае зацікаўленне канадскіх навукоўцаў і студэнтаў выклікала маё выступленне аб становішчы нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Таронцкія студэнты мелі такое ўяўленне, што ў нашай краіне праблемы нацыянальных меншасцяў зусім не выступаюць, а Польшча з'яўляецца прыкладам таго, як гэтыя праблемы трэба вырашаць у краінах усёй Усходняй Еўропы. Прыйшлося тады мне паясняць нашу рэчаіснасць. Яны сапраўды не ведалі, колькі і дзе жыве ў Польшчы немцаў, беларусаў ці яўрэяў. Аб праблемах нацыянальных меншасцяў у Польшчы яны ніколі не чулі. На г.зв. Захадзе людзі не маюць ніякага ўяўлення пра нацыянальныя меншасці ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Аб іх пішацца і гаворыцца толькі тады, калі ўзнікае канфліктная сітуацыя. Таму нічога дзіўнага, што таронцкія студэнты не маглі зразумець, чаму польскія дзяржаўныя ўлады не спрыяюць стварэнню ў Беластоку Цэнтра беларускай культуры і амаль нічога не робяць у ратаванні духовай і матэрыяльнай культуры беларусаў. У іх такія ініцыятывы былі б у цэнтры ўвагі ўрада. Я таксама не патрапіў вытлумачыць, чаму якраз у Беластоку няма двухмоўных надпісаў. Канадцам, якія ў правінцыях Антарыо і Квебек з'яўляюцца дзяржаўнымі ўраднікамі, не было праблемы зрабіць не толькі двухмоўныя надпісы, але таксама навучыцца пісаць і гаварыць па-французску. Зусім незразумелая ім тады сітуацыя ў Польшчы. Праблема правоў чалавека і нацыянальных меншасцяў у іх — гэта паказчык дэмакратыі ў краіне. Мабыць, таму мае выступленні выклікалі вялікае зацікаўленне і дыскусію, якая ўзнікала заўсёды пасля маіх дакладаў.

Пры нагодзе хачу паказаць яшчэ адну праблему. Адсутнасць беларускай справы ў Амерыцы і нулявы стан ведаў пра нас — гэта эфект стану нашай навукі і прапаганды ў свеце. Аб нашых суседзях — паляках, украінцах, літоўцах ведаюць намнога больш. Прадстаўнікі гэтых нацыянальнасцей працуюць у розных навуковых канадскіх установах, а іхняя эміграцыя здолела стварыць свае культурныя і асветніцкія цэнтры. Зразумела, чаму палякі ці ўкраінцы ў Таронта маюць магутны інтэлектуальны і эканамічны патэнцыял. Аднак, калі літоўцы перавышаюць у шмат разоў беларусаў у кожнай галіне грамадскага жыцця, гэта для мяне сітуацыя незразумелая. Прадстаўнікі нашага народа — як выказаўся канадскі беларус, спадар Пашкевіч — ходзяць усюды, толькі не ў свае беларускія арганізацыі і цэрквы. Малая нацыянальная свядомасць на Бацькаўшчыне, бальшавіцкае інтэрнацыянальнае выхаванне і культ долара давялі да таго, што няма вялікіх спадзяванняў на новую хвалю беларускай эміграцыі. Бываюць, безумоўна, выключэнні.

Размаўляю з Лявонам Паплаўскім — адным са свядомых беларусаў з Беласточчыны. Ён бачыць праблемы беларускай эміграцыі, яе ролю ў грамадскім і палітычным жыцці Бацькаўшчыны. Сам ён цяжка працаваў, каб стварыць матэрыяльную падставу сваёй экзістэнцыі. Цяпер стараецца выхаваць сваю дачку на беларускую патрыётку. Ведае ён, што толькі свядомы, адукаваны беларус можа дапамагчы свайму народу. Безумоўна, „Ніва" заўсёды прысутная ў ягоным доме. Сустрэўся я таксама і з іншымі свядомымі беларусамі з Беласточчыны. Некаторыя з іх хочуць перадаць сваю нацыянальную ідэю сваім нашчадкам, іншыя — асабліва з мяшаных сужонстваў — імкнуцца стаць канадцамі, а дзяцей пазбавіць якой-небудзь беларускай нацыянальнай спадчыны.

Сучасная эміграцыя з Рэспублікі Беларусь мае выключна эканамічны характар і нацыянальныя ці рэлігійныя справы іх зусім не цікавяць. Спадар Мікалай Шуст з Лондана (у Канадзе) гаворыць, што там, дзе ён жыве, беларусаў многа, хаця яны самі сябе лічаць рускімі, палякамі ці ўкраінцамі. Дарэчы, старая эміграцыя шмат добрага зрабіла: будавала цэрквы, выдавала газеты, стварыла беларускія арганізацыі. Не зрабіла толькі аднаго, вельмі важнага — за невялікімі выключэннямі — не выхавала сваіх дзяцей на свядомых беларусаў. Іхныя дзеці не могуць быць прыкладам новым беларускім эмігрантам. Таму не відаць у бліжэйшай перспектыве, што ў навуковых установах Канады будуць працаваць свядомыя беларусы і адстойваць там беларускія інтарэсы.

На заканчэнне, аднак, хачу глянуць больш аптымістычна. Пакуль вучацца дзеці беларускіх эмігрантаў, беларускую справу ў Амерыцы павінны прадстаўляць тыя, якія маюць магчымасці. Добрую працу ў гэтым накірунку робяць Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель і шмат іншых. Думаю, што навукоўцы з Беларусі пачнуць наведваць універсітэты ў Амерыцы і чытаць там лекцыі. Да гэтай пары наведвальнікаў з Бацькаўшчыны больш цікавілі крамы, чымсьці навуковыя кантакты. Веру ў змены ў свядомасці беларусаў з Менска і Беластока. Частка свядомых беларусаў, мабыць, узмоцніць беларускую эміграцыю ў Таронта і ў будучыні дапаможа ў вырашэнні беларускіх праблемаў на Бацькаўшчыне.

**Антось Мірановіч**

БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 418*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*

*Нядаўнім часам з'явілася кніжыца „Сшыткі Адзінага" Казімежа Браканецкага, паэта з Ольштына. Належыць ён да маладога пакалення польскіх творцаў, якія вельмі адрозныя ад сваіх літаратурных папярэднікаў. Спомненае выданне здалося важным і нашаму літаратурнаму працэсу, перш за ўсё ў аспекце інтэлектуальна-мастацкім, і таму вырашыў я перакласці ўрывак са „Сшытка Адзінага" дзеля публікацыі.*

*С. Я.*

*Казімеж Браканецкі*

# Сшыткі Адзінага

*(урывак)*

## II

### 1

Усе гэтыя дні, стому, ашаломленасць, скандалы, крыўдаванні, упадак духа, узлёт надзеі, пачуцці братэрства, творчую напружанасць, экзістэнцыяльную падвінчанасць мушу я перастварыць у выратавальную жыццю праўду, у дзейсныя пачынанні і думку. Гэткаму дзеянню, стваральнаму, патрэбны прынцыпы адначасна універсальныя і адзінкавыя, якія дагэтуль прадвызначалі рэлігійныя або рацыяналістычныя паводзіны. Чаму не ў змозе я выхапіць з руіны патрушчаных аўтарытэтаў гэткую спадчыну і гэткую менавіта будучыню, на якіх не ўгледзеў бы адбітак свайго недаверу, скептычнасці, крытыцызму, немагчымасці паверыць, адчуць спагаду ў несціханай прагнасці Божага, праўды большае, чымсьці быдлячае існаванне ў будзённасці?

Жыццё заўсёды суадносіцца з самім жыццём, як чалавек з другім чалавекам, і гэта самая пэўная трансцэндэнтнасць: перасягнуць самога сябе, сваю задаволенасць, сваю роспач, разам з тым спадзеючыся, што ў сувязі чалавека са светам, паміж абоімі людзьмі, народзіцца болей поўны сэнс (каштоўнасць) існавання, чымсьці ўсяго толькі ўпартая воля ўстойлівай працягласці, чымсьці толькі згода на акаляючую цемру неспазнавальнасці. Надзвычай цяжка жыць адно ў часе, але нічога іншага нельга ўявіць сабе; лягчэй, дарэчы, нябыт, чымсьці вечнасць, зло, чымсьці дабро, роспач, чымсьці шчасце.

### 2

Пазбавіўшыся вонкавай зняволенасці, надалей адчуваю магутную ўнутраную зняволенасць як вынік пачуцця краху даступных мне пазнавальных і эмацыянальных маштабаў, пачуцця нетрываласці існуючых да гэтай пары анталагічных прынцыпаў, пачуцця краху рацыяналістычных і рэлігійных міфаў. Праблема не ў тым, ці верыць у Бога, ці ў розум, у аб'яўленне ці ў тэхніку ды ідэалогію, бо ж без змененага розуму не адбудзецца адраджэнне і рэлігійнага жыцця, без змененай рэлігіі не адбудзецца перамена і штодзённага розуму, практычнага розуму. Ідэалагічная гісторыя закончылася на нашых вачах, вызваляючы незакончаную калісьці нацыянальную рэвалюцыю ва ўсходняй Еўропе. У Польшчы жывем у крэдыт, не прыгледзеўшыся глыбей уласнай нацыянальнай традыцыі, і цывілізацыйнай, уласным трагедыі і банкруцтву. Надта лёгка адчуваем драму існавання, занадта, каб угледзець свае заганы і наканаванасць у раптоўна хуткай цывілізацыйнай ды этычнай хадзе. Ужо позна нам, можа быць, дабіцца нацыянальнага, культурна-цывілізацыйнага зруху. Незваротна рухаецца кола лёсу малых народаў на ўзмежку Еўропы, асуджаных на жорсткую вялікасць азіяцкай Расіі. Ну і што мы? Хвалімся пабоямі, сентыментамі, драмамі з усяго XIX і XX стагоддзяў, і з папярэдніх, хвалімся махлярствамі, ілюзорнымі каштоўнасцямі, у рэшце рэшт аніколі не праверанымі, такімі, як: талерантнасць, дэмакратыя, пастаянная работа над самім сабою, над нацыяй, над інструментам, пазбягаючы метафізічнай адказнасці і велічы ў вяках. Тайніца існавання нам недаступная?

### 3

Сняцца мне начамі тыя дні, калі будуць, урэшце, распушчанымі ўсе партыі і ліквідаваны ўсякія сувязі, сістэмы ўціску і дурноты, несправядлівасці, махлярства і ліпнай дзейнасці. Жыццё загнівае ў кватэрах, установах, у нечакана вульгарнай кансумпцыйнасці, у вырастаючых касцёлах, з якіх уцякаюць багатыя ксяндзы — ад хрысціянскага жыцця ўцякаюць, ад людзей, — у аўтамашынах замежных марак, купаючыся ў патрыятычнай рыторыцы, балбочучы пустазвонна. Рэлігійная тандэтнасць і палітычная тандэтнасць. Наша спадчына і дзяцінства! Унутры і навонкі: жывучыя нянавісці і даўнія эсхаталогіі без этычнае яснасці, без ачышчэння. Гэта так, я незадаволены сабою. Жыццё гэтае халтурнае, прытворнае і агіднае! Невыносна часта дакранаюся я амплітуды настрояў: ад эйфарыі да дэпрэсіі, ад агрэсіі да згоды на такое, недастатковае тут, жыццё ў краіне, якая мне бацькаўшчынай, духоўнай і фізічнай. Сённяшняй ноччу заплакаў я ў сне над кожным жыццём (чалавечым і звярыным), якое мусіць скончыцца смерцю. Гэтак жа і на яве, калі ідзеш, едзеш, наведваеш родную Вармію, сустракаеш дзяўчат, старых, п'яных і хворых. Неба, якое імкнецца табе ў зрэнку вока. Вычэрпваеш бачныя хвіліны. А куды падзелася аўтанамічная вонкавасць? Непазнатнасць свету стамляе.

### 4

Пішу вершы, бо ненавіджу, бо не хачу ненавідзець, бо хачу нешта выратаваць, дабіцца адкуплення, бо бачу адходы жыцця, фрагменты велічы, кавалкі мяса, якое роспачна кліча да сябе тую гістарычную і тую экзістэнцыяльную ўпэўненасць, бо хачу схапіцца са светам цэлым, бяссэнсавай, містыфікаванай гісторыяй, злачынствамі разбойнымі, махлярствамі, войнамі. Пішу, бо не ведаю, бо хачу ведаць, бо баюся ўласнага зла, яго актыўнага ўяўлення, бо нананітна абрыдлі мне сервілізм, прапаганда, чэрнь тратуарная, бо няўпэўнены я ў Богу, у рацыі, у дзяржаве, бо ўпэўнены я ў болі, у зняверанасці, у крыку, бо хачу ўпэўніцца ў самавызначальнасці дабра і свабоды.

Той, каго паніжаеш, стамляе. Стамляе і краіна. Моцна адчуваю надарэмнасць, хаос і часовасць, яшчэ болей узмоцнена якраз станам заняпадаючай Польшчы. Няшчасная свабода? Аніколі! Трэба вырашэнняў, датычных не толькі гэтае краіны, а ўсяе еўрапейскай традыцыі. Новай крытычнай філасофіі, грамадскай і культурнай, людзей вольных.

### 5

Супраціў мой гэтаму, каб будзённасць зніштажала любоў, узмацняла нянавісць. Вельмі лёгка любіць тое, чаго няма, што не існуе. Гэтак жа лёгка адчуваць пагарду да іншага чалавека, рабіцца абыякавым. Шлюбны стан — гэта шлях, на якім любоў застаецца крыху ззаду, хоць і намагаецца не адставаць, зазірнуць табе ў вочы, угледзець усяго цябе, а дзякуючы гэтаму каб і ты зноўку змог убачыць усю выключнасць, выбранасць каханага табою чалавека. Адняць любоў у закаханых, пачуццё бяспечнасці і ўзаемнае павагі, — гэта заняць пазіцыю смерці. Адняць бацькаўшчыну ў любячых яе людзей, перадаць яе дзяржаве, уладам, — гэта таксама заняць пазіцыю смерці.

### 6

Як жа велічным і прыцягальным можа стацца зло ў грамадскіх маштабах, калі няма іншага выйсця ў тых псіхалагічна-грамадскіх умовах, у якіх ты апынуўся, а ў самім табе ўсё яшчэ існуюць нейкія ірацыянальныя перакананні, што ўзніклі ад тае няпэўнасці, ці жыццё тваё не ідзе ў пустапаш. Бяздольнасць спараджае благіх людзей, натоўпы іх, што рухаюцца ў прывідным адзінстве ірацыянальнай нянавісці. Хворая зненавіджанасць самога сябе мусіць зніштожыць аб'ект, якім пагарджаеш і якому адначасна зайздросціш. Гэта не той ты, якім быў упачатку. Гэта ты ўжо нехта іншы, жыд, цыган, атэіст, пратэстант, камуніст, ліберал, масон. Вырашэнне дае выкараненае тваё „Я" і ўзводзіць новую моц у выглядзе нігілістычнага „Мы". Пачуццё трагізму жыцця не прыводзіць да жывёльнасці і сервілізму. Толькі бяздольнасць стварае нядобрых, злых людзей (можа быць яна ўяўнай); людзей, якія ўцякаюць ад духоўнае рэчаіснасці.

### 7

Здаецца нечым надзвычайна ашаламляльным менавіта, што з мяне той, а не іншы чалавек, што так і не іначай сфармаваўся я, што сустрэў у жыцці тых і толькі тых людзей, і што ёсць у мяне сям'я... Калі кахаўся, прыходзіла да мяне тая думка, што замагільнае жыццё і няясныя спадзяванні на яго зусім бяссэнсавыя, калі мець на ўвазе смерць як нешта настолькі вялікае і магутнае, што прападае ад яе ўсякі вопыт (калі не забываць, што збаўленне — гэта таксама вопыт). Ніколі і нішто не бывае бесперапынна тым самым, чым было, і такім, назаўсёды адзіным, тым болей у тым скурчы, у параксізме пачуццяў ад малітвы. Жывем не памятаючы, што адышлі ў цень нябыту цэлыя народы і эпохі. І самі мы губляем эмоцыі, перакананасці, гады. Што ні момант, заўсёды канчатковасць.

Пабыўшы трохі ў Торуні. Два незвычайныя касцёлы, іх ашаламляльнае нутро. Перш-наперш містычнае распяцце і ўкрыжаваны на дрэве жыцця Ісус. Чорны гатычны Хрыстос, аблічча якога мучыла мяне і не давала душэўнага спакою аж да світання, калі не могучы заснуць у тым гатэліку ўцяміў, што ўжо не хачу я так далей жыць: вечная прага да веры, вечная ўпэўненасць у тым, што адкупішся пакутамі.

Ці магчыма бязмежна любіць Бога і быць вольным? Магчыма. Бог — гэта любоў і свабода адначасна, хоць вельмі можа быць, што Бога зусім няма. Яго існаванне, гэта для мяне другарадная справа. Важнейшым лічу спосаб жыцця з або без Бога, удзел чалавечае адзінкі і цэлых грамадскіх групаў, таксама нацыянальных, у гісторыі ў імя Бога або і без гэтага імя. Шукаючы апоры ў Богу, людзі замучылі дакладна столькі людзей, колькі замучылі, выступаючы супраць Бога. Бог у дзеючым чалавеку — гэта выбраны Бог, племянны, цывілізацыйны. Гэта фактычна бажко, ідал. Большасць людзей верыць у ідала, не ў Бога, а самы значны з ідалаў уяўляе сабою туманец, нацыянальны забабон, падман, кліч іншых на суд, дазволенасць забіваць, абдурваць. Сапраўдны Бог — у самім табе або яго ўвогуле няма. Сапраўдны Бог ёсць адзінкаю або адсутнічае ён, што цалкам дастаткова ўказвае на драматычнасць таго чалавека, які рэлігійна і этычна ўражлівы. Заўсёды сам-насам з уласным жыццём, яго каштоўнасцямі, перакананнямі. Не прымаю я Бога выбраных народаў, звышчалавекаў, Бога жывых і памёрлых: пераможнага Бога.

### 8

Першае, што авалодала мною, гэта адчуванне гідасці ўперамешку са сполахам. Гідлівасць матэрыяй і целам, прыродай і канчатковасцю, агіда, якая корміцца ненаеднасцю жыццём, полам, сэнсам, шчасцем. І тая ненасычанасць: жахлівая роспач па прычыне неабходнасці памерці, знікнення радасных станаў, адмятання ад сябе няшчасця. Пакутліва адчуваю брак у блізкіх мне людзей рэлігійных адносінаў з іх боку да мяне і не толькі, хаця песімізм гэты мой, цалкам рэлігійны, выклікае спачуванні да ўсяго жывога і мёртвага... Ды, як часта я тым самым дагаджаю самому сабе, вось рыдаючы ў адзіноце. Ці надыдзе калі гэткі час і пара, што не будзе ўва мне адчування ашуканасці?

Смецце ў галаве: калі іду вуліцаю, калі ляжу на падлозе свайго пакоя, працую, тады азываецца як быццам смецце часоў: ашматкі гутарак, успамінаў, памятных запісаў ахвяраў таталітарных сістэмаў, містычныя запісы рамантыкаў, прыгожыя твары, рэсентыменты, Бог, папа рымскі, Міцкевіч, Міхнік, Валэнса, Мілаш, Ват; мая маці ў слязах, якая ў старыя гады ўспомніла нейкія свае забытыя беларускія малітвы; цытаты, карціны, сентэнцыі, страх, прыніжанасць, агрэсіўнасць, захапленне, супакой...

Гэтая чалавечая веліч, якая прымушае да пошукаў праўды ў этыцы, на шляху, па якім ідзе чалавек да сябе і да іншых, непрымальная яна грамадскім і рэлігійным таталістам. Адчуванне святасці, якая ахвяроўвае жыццём або годнасцю. Толькі Ісус не дае мне спакою. Ягоная веліч і шаленства, дзікасць і пакута. Жахам і, адначасна, дзіўным спакоем пранізваюць мяне словы Ісуса, распятага на крыжы: Госпадзе, не адступайся ад мяне! Калі верыць гэтым словам, дык толькі так: сказаны яны ў роспачы канчальнай, сам-насам з трагедыяй чалавецтва. Не трэба жыцця векавечнага, несмяротнасці, суду і кары, пекла і раю. Як жа хочацца ведаць Напэўна, што чалавечая этыка без абсалютных санкцыяў не пераменіцца ў варварства, і што чалавек — якім ён ёсць без аніякіх ілюзій, але і адважны на быццё, — застаецца адзіным трансцэндэнтным рухам, што выходзіць навонкі сябе па праўду і любоў.

Дзякуючы, аднак, няведанню магчыма жыць. Скажы, што гэта такое, чым ты якраз жывеш, хвалюешся; адкуль у цябе столькі сумненняў, хістанняў, драмаў, тугі. Сам перад сабою разыгрываеш уласную пустку. Глянь, які смешны Сартр, і прыхаванае Хайдэгерам зло, драбноцце спакус у Жыда, літаратурнасць у Жэнэ, горычная ашаленасць у Чыярана... Так, культура шмат што схоўвае, замоўчвае. Колькі ж намучылася сама сабою Еўропа. Колькі захапляліся ў ёй гульнёю, махлярствам, фіктыўнасцю ў літаратуры і філасофіі. Гэта помнікі і магільні чалавецтву, якое вечна валачэцца той самай дарогаю людскога болю. І таму гэта святло адтуль свеціцца, маральнае святло, хаця добра не вядома, хто яго ў сапраўднасці запаліў. Пустка, маё нутро, неўладжаныя пажаданні, шчасная выпадковасць, фанабэрыі, выключныя пакуты ды ў рэшце рэшт уся спадчына ўсяго чалавецтва, якая раз-пораз выяўляецца ў маладым чалавеку?

Мне нецікава з людзьмі. Няма ў мяне жадання гутарыць з імі. Што мы адзін аднаму скажам? Неўзабаве, аднак, кажу сам сабе: апамятайся! Літуюся над сабою, і над іншымі, бо баюся прамарнаваць жыццё, дастаць хваробу, пастарэць; уяўляю ўласнае падла ніжэй травы і цішэй вады, лахмоцце ад упарахнелай крыві, жылаў, валасоў. Паніжае мяне тое маё міжвольнае думанне, падатлівасць падсвядомай уяве тлену, калі тым часам намагаюся супрацівіцца гвалту лёгкадумнай ірацыянальнасці. Гэта не цяпер, гэта яшчэ ў дзяцінстве нешта раскалола мяне, і зараз, вось, адгукаецца тое.

### 9

Непрысутнасць Бога ў свеце, зло і пакуты, а такога абсурду аніякая рэлігія не вытрымлівае. Смерць асобы і зніканне ўсіх людзей — усё тое магло быць растлумачанае драмаю Ісуса Хрыста, таму што распяцце Чалавека-Бога не дапускае папрокаў і ўсякага падабенства з іншымі рэлігіямі свету. Няўжо хрысціянства трэба лічыць адзінай аб'яўленай рэлігіяй? Не магу я з гэтым пагадзіцца; баюся Ісуса; столькі жахлівых і пустых смерцяў навокал, цяпер і ў гісторыі, а ягоная смерць зусім не растлумачвае іх, хутчэй за ўсё абмінае сваёй увагай, пакідае незаўважанымі.

### 10

„Ператварэнне" Кафкі як сімвалічнае ўяўленне чалавека аголенага з трансцэндэнцыі.Ператварэнне ў адваротнасць. Не ў анёла, але ў быдляціну. Чыстая праблема думкі, застылай у каменнай масе, мярцвечыне, крышталі, экскрэментах. Матэрыялізацыя эсхаталогіі.

У працэсе паэтычнай дасведчанасці з'яўляюцца моманты адназначна вонкавай інспірацыі. Паэт ацішае сваё свядомае „я" і паддаецца нечаму кшталтам медыума, якое можна вызначыць як экзістэнцыяльную ўвагу, часова пустой канцэнтрацыяй, пасля чаго чэрпае ён энергію з усяе сутнасці чалавека. На гэтым полі сустрэчы экзістэнцыяльнай увагі з канцэнтраваным светам (знікае падзел на псіхіку і матэрыю) суб'ект увасаблення становіцца рэлігійным чалавекам, г.зн. набывае ўпэўненасць у рэальна існуючы Абсалют. Гэтае пазнанне, якое інтэгруе веды з інтуіцыяй, памяць з уяўленнем, уражлівасць на зло з ачышчальным жыццю трансцэндэнтным паказнікам, упісваецца ў ператварэнне паэта, дзякуючы чаму можна схіліць яго да прыняцця абсалютнае адказнасці за слова рамантычным жэстам новавяртання або гэтак жа ўжыццяўленнем рэлігійнага падпарадкавання сваёй творчасці і жыцця Богу, Адзінай Праўдзе, Ачышчэнню. У гэтым працэсе нявечнае пераўтвараецца ў непазбежнае, а вечнае — у стала прысутнае.

„Ператварэнне" Кафкі можна палічыць супраціўным увасабленню з жыццём, яскравым пазбаўленнем трансцэндэнцыі, рэлігійнай выпатрашанасцю, але, разам з тым, як і знак бунту супраць гнілому, гаснучаму свету. У цемнаце жывіннага цела бліскае індывідуальнае святло ад небездумнага сумлення.

# Зорка

## Старонка для дзяцей

*Алесь Бачыла*

## МАМА

Свет вялікі... Словы, словы...
Колькі іх — і не злічыць!
Толькі „мама" на ўсіх мовах
Скрозь аднолькава гучыць.

І хоць розных моў таксама
Ў цэлым свеце о-ё-ёй!..
Толькі мамы, нашы мамы,
Размаўляюць на сваёй.

Той, што змалку сэрцу блізка,
На якой зімой і ў май
Пела маці над калыскай:
„Спі, мой сынку, засынай..."

Адганяла цень трывожны,
Атуляла дабратой
І спявала... Хіба ж можна
Адрачыся песні той?

Хай табе не засціць памяць
Аніякая імгла...
Калі крыўдзіў хто, ты ж маму
Клікаў... Мама ўсё магла:

Адагнаць бяду, нягоды,
Холад, немарач, адчай...
Добрым сынам будзь заўсёды
І яе не засмучай.



*На аглядзе беларускай песні выступаюць Оля Карзуновіч і Адам Якімюк з Чыжоў.* Фота М. Ваўранюка

## Прыбіранне лесу...

17 і 18 верасня вучні пачатковых школ у **Нараўцы, Старым Ляўкове і Семяноўцы** прыбіралі навакольныя лясы, бераг Семяноўскага вадасховішча ды старыя яўрэйскія могілкі. У мерапрыемстве ўдзельнічала 450 школьнікаў і настаўнікаў. Навялі яны парадак у лясных масівах каля Новага Ляўкова, Навін, Міхнаўкі, Тарнопаля ды Новай Лукі. Пазбіралі пустыя бутэлькі, бляшанкі, усялякую папяровую ўпакоўку, макулатуру і г.д. Усё гэта грузавікамі і трактарамі вывезлі з лесу на месца звалкі.

Калі закончылі прыбіранне, удзельнікі распалілі вогнішча і пры агні смажылі кілбаскі. Для ўсіх былі падрыхтаваны бутэрброды і газіраваныя напіткі.

Гэта яшчэ не ўсё. Арганізатары і спонсары купілі невялікія ўзнагароды, між іншым, альбомы, блакноты, аўтаручкі, фламастэры і каляровыя алоўкі. У тым выпадку падзяліліся ўзнагародамі шляхам жараб'ёўкі.

Варта адзначыць, што арганізатарамі гэтага карыснага мерапрыемства былі: Гмінная ўправа, Спулдзельчы банк, Гмінная спулдзельня „Самапомач хлопска" і прадпрыемства ЦПН у Нараўцы, Надлясніцтва Броўск у Грушках ды Керамічная фабрыка ў Старым Ляўкове.

**Янка Ляўкоўскі**

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

**22**

**ДЗІК ВАЮЕ СА ШКОДНІКАМІ**

**(1)**

Наш халодны і малапрытульны дамок стаяў на ўскраіне горада і, як іншыя суседнія дамкі, быў абкружаны кустамі парэчкі і вішняком, а вокны пазіралі на грады з буракамі і капустаю. Не дзіва, што вялося тут вялікае мноства розных паўзуноў і летуноў. Хай бы сабе вяліся, але нам ад гэтага было не салодка. Усе яны — мурашкі, мухі, камары і нават чмялі — не мелі ніякага жадання абсталёўваць сабе ўласнае жытло, а так і цэлілі трапіць у кватэру. Наляталі праз дзверы і форткі, запаўзалі праз непрыкметныя воку шчыліны ў сенцах і ў вокнах.

Як ні пільнаваліся мы шчыльней зачыняцца, зацягваць марляю і сеткаю вокны, нічога не дапамагала. Звечара самым старанным чынам аглядалі ўсе куткі і выганялі, нават выкурвалі дымам бярозавай губы ўсіх, хто меўся застацца з намі начаваць, здавалася б, дачыста. А толькі пагасіш святло і ледзьледзь змружыш вочы, над вухам звон — камар! Паспрабуй згледзь ды зламі яго! Як быццам дасі сяк-так рады, а ўжо ў суседнім пакоі нехта абудзіўся і ляпае далонямі, каб залавіць парушальніка спакою.

Ішла трывалая, хоць і неабвешчаная ў друку вайна. І ў ёй актыўна ўдзельнічаў наш сабака.

Асабліва надакучалі мухі. Іх даводзілася выганяць па некалькі разоў на дзень. Цэлымі раямі ляцелі яны з бліжэйшых памыйніц і сметнікаў і трымаліся вельмі нахабна, поўзалі па сценах і па сталах, замахваліся сесці на хлеб ці ўваліцца ў талерку.

Дзік даволі ўдала абараняўся лапамі: адгрэбаўся ад мурашак і душыў на мордзе камароў. А вось мух гідзіўся страшэнна, асабліва гудух, тоўстых, чорных з зеленаватымі галоўкамі. Варта было такому стварэнню, абваробышыся ў пары, упасці ў яго-ную міску з гарачай поліўкай, як сабака адыходзіўся і не паддаваўся на ніякія ўгаворы: хоць бы пакаштаваць ежы, хоць муха была даўно выкінута.

— Дзік! — злавалася ў такіх выпадках Гаспадыня. — Ідзі сюды. Глянь на Хаму.

Кот ужо вымываў языком свой сподачак, не зважаючы, што збоку ляжыць муха.

— А чаго ты перабіраеш? Што ты з панскага заводу, ці што?

На вачах у сабакі страву вылівалі вон, вымывалі посуд і налівалі свежую, толькі што з пліты. Толькі тады ён падыходзіў бліжэй, усё разглядаўся і прынюхваўся, зрэшты рабіў ласку хлебтануць, і то, каб не ўкрыўдзіць Гаспадыню.

Аднойчы раніцою ўсе пасыходзілі з дому. Засталіся толькі Дзік і я. Мне трэба было скончыць тэрміновую работу, а сабака выконваў абавязкі вартаўніка дома.

Амаль адразу, як я сеў за стол, з'явіліся няпрошаныя госці: якім чынам яны злаўчыліся трапіць у мой пакой і што ім тут падабалася? Каб хто ведаў! Да століі слупом стаяў сіні папяросны дым, невялічкая фортка не ўпраўлялася выцягваць яго. І чалавеку не ўтрываць, але ў тыя мае гады здароўя было не пазычаць, а госці — усяго толькі слабыя стварэнні з кволымі лапкамі і крыльцамі.

Першы з'явіўся чмель. Я выпасажыў яго параўнаўча лёгка. Не дужа паваротлівы ў сваім аксамітным паўкажушку чмель пагуў, зрабіўшы некалькі кругоў каля сцен, і запоўз у куток рамы. Там я і накрыў яго ручніком. Чмялёў голас змяніўся: замест паграджальнага барытона бзынкаў тоненькі і жаласны фальцэт. Аднак вытрасены з ручніка на вуліцу ён бадзёра паляцеў, адвітаўшыся са мною зноў жа барытонам.

Дзік наглядаў за гэтай валаводай і ўсім сваім зніякавелым выглядам нібыта прасіў прабачэння: „І рад бы, але не магу дапамагчы".

Тым часам у пакоі аказалася пчала, многа спрытнейшая. Упраўляцца з ёю давялося тым самым манерам, пры дапамозе ручніка, але значна даўжэй.

Нарэшце можна было сядзць за работу. Тут клопату задала муха. Яна трымалася не менш ваяўніча, чым абрыдзелы за вайну нямецкі самалёт „месершміт". Лётала з кута ў кут, ад сцяны да сцяны і нахабна, густа гула, галоўнае, не рабіла спробы дзе-небудзь прысесці.

Я ўжо быў гатовы пагадзіцца: гудзі, ліха з табою, буду працаваць. Але муха перайшла да дзеянняў, іначай як агрэсіўныя іх не назвеш: снавала сюд-туд над галавою і цэліла сесці акурат на нос.

Мы з Дзікам парасчынялі ўсе вокны і дзверы, я зноў узброіўся ручніком. Адзін захад наўздагон за няўлоўнай надаядай, другі, і ў пакоі як быццам не засталося нікога, апрача сабакі: ён не адступаўся і часта дыхаў, выставіўшы язык.

Мы напіліся вады, крыху адпачылі, але не паспеў я ўзяцца за аловак, як над вухам пачулася агорклае „бз-з-зз!"

Усё пачалося спачатку. Ратуючыся ад ручніка, муха ўмела хавалася, зашывалася за шафу, у цёмны куток і некаторы час сядзела ціха. А як толькі канчалася аблава, зноў звінела над галавою.

Час ішоў, а раніца — самы лепшы час для работы — была зглумлена. Агледжаны ўсе магчымыя спраты, вымаханы ручніком пакоі і тэраса, і я ўзяўся за работу.

Можа, адчапілася хітрая назола, а як — не, перацярплю.

Муха нібы таго і чакала: вылецела аднекуль і на гэты раз змяніла тактыку, пачала кружыцца вакол стала нізка, на ўзроўні крэсла. Але тут шчоўкнула сабачая пашча і стала ціха.

— Дзік! Дзякуй табе, дарагі мой!

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

**6**

### Сеткі-клеткі

Гэта гульні з літарамі і словамі. Такі іх змест, а форма можа быць самая розная. Яны карысныя тым, што ўзбагачаюць слоўнікавы запас, выпрацоўваюць настойлівасць, звычку не кідаць справу, якая не адразу атрымліваецца, а даводзіць яе да канца. Безумоўна, тут не абысціся без слоўнікаў, але не трэба звяртацца да іх спачатку — варта перш падумаць самім.

Пашукаем патрэбныя словы на дадзеныя літары. Адшукаўшы, складзём і самі розныя сеткі-клеткі. Для гэтага дастаткова ўзяць лісток паперы ў клетку, знайсці таварышаў і наладзіць спаборніцтва, — хто хутчэй запоўніць клеткі.

### Літары згубіліся

На дзвюх сетках былі напісаны назвы беларускіх гарадоў: на першай — па гарызанталі, на другой — па вертыкалі. Нейкі зламыснік аднойчы сарваў з першай усе галосныя, з другой — усе зычныя. Сарваў, параскідаў, і яны пагубляліся. Неабходна правесці следства і ўзнавіць іх:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |
| А | Я | А | І | | У | О |
| | | | | У | | |
| І | О | Ы | Е | | І | |
| | | | | А | | І |
| Ё | | А | | | Е | |
| | | | | Ы | | А |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Г | | М | | Л | |
| | Ш | М | | Н | |
| Д | | Б | Р | | Ш |
| Ж | Л | | Б | | Н |
| Р | | Ч | | Ц | |
| Н | | С | В | | Ж |

### Задача з сакрэтам

У гэтыя сеткі трэба ўпісаць па гарызанталі прозвішчы (псеўданімы) двух народных пісьменнікаў Беларусі такім чынам, каб першае можна было прачытаць восем, а другое — сем разоў:

### Гарады Беларусі

Трэба адгадаць назву беларускага горада, абласнога цэнтра, якую можна прачытаць па *верхняй і ніжняй гарызанталях і па цэнтральнай вертыкалі.* Для гэтага ў *другую, трэцюю і чацвёртую гарызанталі* трэба ўпісаць таксама назвы беларускіх гарадоў.

*(працяг у наступным нумары)*

<u>З гісторыі Беларусі</u>

## БЕШАНКОВІЧЫ

Хто ж яго знае, калі дакладна адбылося гэта. Адно толькі можна сказаць, што вельмі даўно. Меnavіта тады на месцы сучасных Бешанковічаў стаў жыць са сваёй сям'ёй стары ганчар. Дзень і ноч рабіў ён гліняны тавар, каб потым везці прадаваць яго і паспрабаваць хоць неяк звесці канцы з канцамі. У сям'і ягонай усе былі працавітымі і сумленнымі людзьмі, толькі стары з кожным днём усё болей і болей маркоціўся. А справа была ў тым, што ў іх з жонкай нараджаліся толькі дзяўчаты, сынка ж Бог не даваў. Гараваў майстар, што не будзе каму перадаць сакрэт свайго майстэрства.

Аднаго разу ганчар са сваёй дачкой капаў гліну на недалёкім ад хаты глінішчы. Была ўжо восень, таму спяшаліся нарыхтаваць як мага болей сыравіны для працяглых зімовых месяцаў. Унурыліся яны ў цяжкую, аднастайную працу і ўсё кідаюць ды кідаюць гліну. Нічога не чуюць і ні на што не звяртаюць увагі. Аж раптам дачка стала ўважліва прыслухоўвацца. Бацька незадаволена хмыкнуў:

— Чаго гэта ты?

— Здаецца, крычыць нехта, — адказала яна.

— Падалося табе, хто тут можа крычаць?..

— Так...

Ізноў сабе капаюць ды капаюць. Ужо воз цэлы накідалі. І тут стары сам выразна пачуў дзіцячы плач. Выхапіўся ён з зямлі, пабег з дачкою на крык. Прыбягаюць туды і бачаць: ляжыць скрываўленая жанчына, а каля яе хлопчык поўзае, мо нейкі год ці два яму. Яны да жанчыны, але тая ледзьве дыхала. Далі ёй вады, то глынула і зайшлася ад болю.

— Хто ты? Адкуль? — запытаўся стары.

— ...Бежанка я... нашых усіх чужынцы перабілі, а мне з сынком удалося збегчы... Глядзіце яго, людзі добрыя... — сказала гэтак і сканала.

Хлопчыка ганчар забраў у сваю сям'ю. Ён рос кемлівы, здольны, таму стары нарадавацца не мог на яго. Навучыў усім таямніцам уласнага майстэрства, а калі паміраў, то перадаў яму ўсю сваю гаспадарку і запавет: дапамагаць дочкам і старой. З таго часу месца гэтае сталі зваць Бежанковічы, ад слова „бежанка", а потым ужо і Бешанковічы сталі.

**Аляксей Ненадавец**

### Адгаданка „Падарожжа..."

**Сеткі-клеткі.** Літары згубіліся. Па гарызанталі: *Гомель, Добруш, Рэчыца, Нясвіж, Ашмяны, Жлобін.* Па вертыкалі: *Магілёў, Бягомль, Барысаў, Віцебск, Пружаны, Лунінец, Жодзіна.* Задача з сакрэтам. *Купала, Колас* — па гарызанталях і дыяганалях. Гарады Беларусі. Па гарызанталях: *Мінск, Міёры, Пінск, Брэст, Мінск.* Па цэнтральнай вертыкалі: *Мінск.*

# ДЗЯДЫ

Памінальны абрад узыходзіць да старадаўняга звычаю — культу продкаў і сведчыць аб высокай маральнасці нашага народа.

Вячэра ў памяць памерлых родзічаў мела назву Дзяды. Дзядамі называлі таксама дзень, калі адбываецца гэты абрад, і нябожчыкаў, якіх памінаці.

Дзяды наладжваліся тры-чатыры разы на год, а ў іншых месцах і болей. Паўсюль у нас памінаюць продкаў на Радаўніцу (аўторак наступнага за велікодным тыдня) і Сёмуху, або Тройцу (сёмая нядзеля пасля Вялікадня). На Віцебшчыне спраўляецца гэты абрад яшчэ перад Каляламі (Раством) і Масленіцай: у першым выпадку пераважна там, дзе жывуць беларусы-католікі, у другім — ва ўсходніх раёнах.

А галоўнымі былі калісьці Дзяды восеньскія, пасля заканчэння асноўных земляробчых клопатаў. Яны так і называліся — Асяніны. На гэтую пару прыпадае аж некалькі памінальных дзён.

Змітравы Дзяды адзначаліся ў пятніцу і суботу перад Змітравым днём 8 лістапада.

У асобных міні-рэгіёнах памінанне продкаў наладжвалася напярэдадні Міхайла: у пятніцу — Міхайлаўскія Дзяды, у суботу — Міхайлаўскія Бабы.

У пятніцу — суботу перад Піліпаўкай дзе-нідзе адзначаліся Піліпоўскія (Раздзвяныя) Дзяды.

Перад Дзядамі абавязкова парадкавалі і прыбіралі на падвор'і і ў хаце. Усе мыліся ў лазні. На вячэру склікалі сваякоў, суседзяў. Гатавалі святочныя абрадавыя стравы: куццю, бліны, клёцкі з душамі, яечню. Ад кожнай стравы сімвалічна адкладвалі „дзядам".

У апошнія гады Асяніны ўсё шырэй вяртаюцца ў побыт беларусаў. Гэтаму спрыяе няўхільны працэс беларускага нацыянальнага адраджэння. Асяніны адзначаюцца як дзень памяці пра ўсіх памерлых, загінуўшых, закатаваных.

<u>*ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ*</u>

*Ала Канапелька*

### ГАННА ЛОВІЦЬ РЫБУ

Майстравала Ганна вуду:
рыбку вудзіць
сама буду.

— Рыбка, рыбка, не хавайся,
мне на вудачку чапляйся!

Як тут рыбцы не здзівіцца?
Пачала яна лавіцца.

Поўны кошык, поўна ванна,
не спыняецца шчэ Ганна.

Закідае вуду спрытна,
ёй усё з балкона відна:

карпы, быццам парасяты,
шчупакі, як жарабяты,
карасі, ліні і плоткі
і вугор — даўгі і вёрткі...

Калі ты рыбак праўдзівы,
то павер у гэта дзіва:

балкон
шостага паверху
поўны рыбы быў — даверху!

## ЗАГАДКІ

Каля сосен, каля ёлак збудаваны
дом з іголак.
Можа, вам знаёмы ён? Жыхароў
у ім мільён.
Усе працуюць урачыста, вось чаму
навокал чыста.

* * *

Вось загадка невялічка: жывуць
брацік і сястрычка.
Міргне сястрычка, і тым часам
ёй брат адкажа гулкім басам.

## ЛІЧЫЛКА

Раз за разам —
Лічым разам.
Раз за разам,
Два за два.
Словы, бровы, галава.
Раз, два, тры, чатыры, пяць —
Хопіць, хлопцы, балбатаць!
Застаёмся я ды ён,
Дык выходзь, дружочак,
Вон!

*(з народнага)*

## РАЗАМ З ПТУШКАМІ

Восенню першымі ў далёкі шлях адпраўляюцца ластаўкі, стрыжы і... кажаны. Яны таксама робяць вялікія пералёты і часам нават у агульных змешаных выраях, разам з насякомаеднымі птушкамі.

З надыходам восенскіх халадоў насякомых у паветры становіцца ўсё менш і менш. Для кажаноў наступае галодны час. Адны з іх, такія, як вушаны, начніцы, хаваюцца ў скляпы, падвалы, памяшканні для гароднiны і там у патаемных куточках спяць да вясны. А вячэрніцы, двухколерныя кажаны і іншыя адпраўляюцца ў дальняе, часам да тысячы і больш кіламетраў, падарожжа. Ляцяць яны асобнымі стаямі, звычайна ноччу.

У якіх кірунках мігрыруюць пералётныя кажаны? Дзе яны зімуюць? Адказы на гэтыя пытанні атрыманы з дапамогай масавага кальцавання гэтых звяркоў. Асноўныя кірункі асенніх міграцый рукакрылых — паўднёва-ўсходні і паўднёва-заходні, прычым кожнай геаграфічнай папуляцыі ўласцівы свой маршрут пералётаў. Вучоныя адзначаюць тры міграцыйныя маршруты кажаноў: першы — з паўночнага захаду (Прыбалтыка і Беларусь) у Сярэднюю Еўропу і на Балканы, а два другія маршруты — з усходняй часткі чарназёмнага цэнтра (Варонежская вобласць) на Каўказ і Крым.

Вялікая водная прастора не з'яўляецца перашкодай для пералётаў кажаноў. Устаноўлена, што асеннія пералёты кажаноў у Беларусі пачынаюцца ў канцы ліпеня і спыняюцца ў сярэдзіне жніўня. Вучоныя адзначаюць, што ў міграцыях кажаноў і большасці насякомаедных птушак шмат агульнага. Для тых і другіх характэрны адзіны накірунак асенніх пералётаў. Большасць птушак сямейства вераб'іных робяць свае пералёты, як і кажаны, ноччу. У іх супадаюць нават хуткасці пералётаў, прыкладна 30—40 кіламетраў у суткі.

Вясновыя пералёты праходзяць дружна і за кароткі час, асеннія ж больш працяглыя. Тое ж назіраецца і ў птушак. Характэрна, што з году ў год яны беспамылкова знаходзяць свой шлях дамоў.

Масавае кальцаванне гэтых звяркоў дазволіла ўстанавіць, што тэрмін працягласці жыцця кажаноў 20—25 гадоў.

**А. Курскоў**




*Барыс Руско*

### Восень

Свет у кроплі дажджу.
Жаль. У прамінання
ільвіны кіпцюр, а вочы —
хрызантэмы.
І попел рассеяны
па зямлі.
Зямля — звалка попелу
і трапятанне крылаў кволых.
Чаму ж тады співаюць птушкі?
Членараздзельныя
ціша і крык,
а пасярэдку восень
залацістым паміраннем
лыпае.

### Хрызантэма

Пах жыцця і полымя смерці
на скрыжаванні дарог.
Знаходца ля каменя
магільнай кветкі
кануў у бяспамяцтва.
А карэнні ў патойбаковії
п'юць сок ценяў.
А хрызантэма сярод жывых
цвіце колерам вачэй пагаслых
і не плача.

### Пасля дзядоў

Замець крылаў рысуе
вялікія формы,
а так хісткія,
што вецер поўзае,
бы чарапаха.
А шэрае поле ў чорныя латы —
саванам прыблудных глістаў.
А прамень сонца бяжыць сарамліва
і ўцякае ў бездань змроку.
Згорбленая восень
дрыжыць ад прастуды
на зямной каруселі.

# ВОЛЬНАМУ ВОЛЯ

Міхась Махнацкі ў сваёй адгалосцы ў 39 н-ры „Нівы" на палеміку праф. Вандала Арлянскага і Барыса Штотыднёвага з Глебам Штодзённым у „Ніве" ад 21 жніўня г.г. даў жару тым, якія скрываюцца за псеўданімамі, сварацца паміж сабою. „Міхась Махнацкі" — таксама псеўданім. Дзеліць ён беларусаў на два гатункі: першы — гэта эліта; аўтары, якіх ён чытае. Сюды М. Махнацкі залічвае В. Шведа (гэта добра, бо і я яго чытаю і высока цаню), М. Багдановіча, Я. Коласа, Я. Чыквіна, А. Барскага а таксама Н. Артымовіч, З. Сачко і М. Шаховіча. Другі гатунак — гэта „Аўрора", якое ён зусім не чытае. Што ж, вольнаму воля. Я таксама не ўсё чытаю, але гэтым не хвалюся, бо некультурна. Адносіны М. Махнацкага да жыццёвых замалёвак „Аўроры" — гэта нахабнасць. Трэба не мець галавы і розуму, каб напісаць, што творчасць „Аўроры" з'яўляецца „запхайдзірай" на старонках „Нівы". Дзе гонар таго, хто асмеліўся такое ляпнуць? На шчасце на Махнацкім свет не канчаецца і большасць чытачоў чытае замалёўкі „Аўроры" і я перакананы, што хваляць аўтарку — Ірэну Лукшу.

А наконт маёй „публіцыстыкі", якую Махнацкі іранічна бярэ ў двукоссе: чытаюць яе хіба ўсе, хаця яна мо і найгоршая. А чытаюць яе па той прычыне, што яна падпісана маім прозвішчам — Панфілюк, а не, напрыклад, Дубіцкі. Я не карыстаюся псеўданімамі і валю проста: Панфілюк і баста. А ці Васіль Петручук сапраўды страціў асабістага крытыка з Дубіч-Царкоўных? Думаю, што не, бо гэты „крытык" у канцы канцоў зразумеў сэнс дасканалай аповесці В. Петручука „Пожня". Гэта залаты скарб беларускай літаратуры на Беласточчыне: ніхто больш у нас не ўмеў і не ўмее напісаць простай і зразумелай моваю кніжку, аснаваную на фактах. Пра пажаданне Махнацкага „Няхай старонкі „Нівы" поўняцца высакароднай крытыкай і цікавай публіцыстыкай" можна па-рознаму падумаць: напрыклад, каб у „Ніву" пісалі адны толькі „белавежцы". Тады наша газета выгадала б як літаратурны альманах і мала хто яе ў рукі браў бы. На шчасце ў „Ніву" пішуць і аўтары другога гатунку; пішуць проста, зразумела і праўдзіва і таму „Ніва" дачакалася залатога юбілею — свайго 2 000 нумара. Для мяне і для многіх чытачоў у „Ніве" не было і няма „запхайдзіраў"; не лічу ёю і адгалоску М. Махнацкага.

**Мікалай Панфілюк**

# ІКОНЫ

### Частка IX

Сёння прадоўжым інфармацыю аб выказваннях жанчын з затопленых вёсак у раёне Семяноўскага вадасховішча.

„Божэ мой мілы! Катора з нас не помніт, як нас высялялі з нашых вёсак. Якое ж гэто было няшчасце. То ж ад вякоў мы жылі на бацькоўкіх, дзедаўскіх землях, а тут раптом нам далі прыказ — выбірайся! Ну, то што м'я рабілі, вядомо, памаленьку пераязджалі. А калі ўжэ забралі з хаты ўсе свае лахі, то што мы рабілі? Калі ўжэ хата была поўнасцю пустая, то тады знімалі з сценаў іконы. Кожна гаспадыня брала ў рукі Багародзіцу або Хрыста, цалавала, выходзіла на падворак і, трымаючы ікону пры грудзях або над галавою, абыходзілі тры разы хату або і ўсю сядзібу. І толькі ўжэ тады сядалі на воз і не аглядаючыся, трымаючы тую ікону пры сэрцы, ехалі ў гэты няшчасны бандарскіе блёкі".

„Мне мае мама расказвалі, як гэто ваны ў першую міравую вайну пакідалі Луку і ехалі ў Расею. Бедны былі. Мелі па свінцы, па кароўцы і па коніку. Ну, а ўцікалі таму, што баяліся немцоў. Людзі гаварылі, што немцы насілуют дзяўчат, забіваюць дзяцей, а бабам абрэзваюць грудзі. Ну, то ведомо, людзі баяліся і ўцікалі ў Расею. Некаторы то аж у Сібір заехалі. Ну, а як ваны ехалі? Паршучка чы свінку калолі і мясо засольвалі, кароўку прывязвалі да воза, у каторы запрагалі коніка. Ну, і ехалі. А чы вы знаеце, што многіе то тымі конікамі заехалі аж у Сібір і назад вернулісе. А па дарозе то былі велікі горы, каторы называюцце уральскімі або штось там такое.

Ну, то мая мама, значыцце, гаварылі, што на адзін воз грузілі цэлэ багацтво. Ведомо, што много трэбо было пакінуць. Але многіе то забіралі навет дзежку. А некаторы то навет жорна і плуг забіралі. Ведомо, што па дарозе трэбо было тое-сёе выкідаць.

Ну, то значыцце, так мама казалі, што можно было ўсё кінуць, але іконы хатняе то ніхто не выкідаў. А значыцце, у хаці нашае мамы то быў такі парадак, што кожны мыцель меў як бы сваю ікону і да яе маліўсе. То значыцце, як трэбо было выезджаць то кожны забраў сваю ікону. Ой, там у тым бежанстве то ваны пераджылі много гора і вернулісе голы і галодны. Усё пакідалі, але іконы прывезлі. На шчасце маміна хата не згарэла, то зараз унеслі іконы ў хату, павешалі на сцены і маміна мама, гэто значыт мая баба, памалілася да іконы і сказала: „Ну, дзеткі, калі мы ужэ паўсвету з гэтымі іконамі пераехалі і вярнулісе да роднае хаты, то мы ужэ не прападзем. Толькі трэбо нам жыці ў згодзе, працаваць і маліцца, а Бог нам паможэ разжыцце". Ну так і было. Праўда, за тае Польшчы то была вяліка бада. Людзі не даедалі, у зрэбным хадзілі, пасталы насілі на нагах, але свае рэлігіі то ні кідалі. А цяпер толькі паглядзі, не толькі дзяўчата але часто і хлопцы праваслаўны пераходзят у каталіцку веру. І такая табе або такі то ўжэ на праваслаўну ікону не гляне. Мало гэтаго, ест і такіе выпадкі, што праваслаўных бацькоў прымушают знімаць праваслаўные іконы і вешаць каталіцкі".

„А хто яго ведае, каторы з іх праваслаўны, а каторы каталіцкі. То ж возят без пшэрвы спекулянты іконы і прадают па нашых вёсках. І трэбо сказаць, што ваны якіесь не такіе як калісь былі. То ж ваны зроблены з гэтаго, ну як вон там называецце, ну, ну... плястык чы як там. І там і жаровачкі гарат, і блішчат якіесь лісточкі і кветачкі, як бы ваны і харошы, але чыж ваны праваслаўны? То ж усе гэты спекулянты гаворат па-польску, то такіе ваны там праваслаўны. Але ж бачыце. Людзі нашы купляют гэты іконы. Выкідают тые бацькоўскіе і дзедаўскіе, а гэты новы вешают. Бо гэто, значыццэ, такая мода пайшла. А мне здаецце, што тые старые то ваны лепшы былі, бо ваны былі ў нас ад вякоў. І Богда іх прывык, і мы прывыклі. Але, ведомо, маладые па-своему на ўсё глядзят".

**Алесь Барскі**

**Хачу зрабіць хор, які ведалі б не толькі ў Орлі, але і на Беласточчыне, а нават далей.**

# УЛАДЗІМІР САХАРЧУК

нарадзіўся ў Крывой, што ў Арлянскай гміне. Там закончыў пачатковую школу. Далей вучыўся ў бельскім беларускім ліцэі. Апрача гэтага вывучаў ігру на саксафоне ў бельскай пачатковай музычнай школе.

— Дзякуючы таму, што спяваў я ў „Крынічцы" і прымаў удзел у конкурсах беларускай песні, мяне накіравалі ў Менск у Інстытут культуры. Там вучыўся на Факультэце мастацкай творчасці ў групе дырыжораў народных хораў. У гэтым годзе навуку я закончыў і працую ў Орлі.

Праца ў школе ідзе мне вельмі добра. Цешыць мяне тое, што дзеці вельмі заангажаваныя, ахвотна прыходзяць на заняткі, спяваюць беларускія песні. Цешыць і тое, што нашы песні спяваюць не толькі беларусы, але і палякі.

На ўроках увесь час прысутнічае цэлы клас, многія дзеткі чакаюць той момант, калі можна прыйсці пайграць і паспяваць. Як дагэтуль, я вельмі задаволены сваёй працай. Праўда, працую толькі два месяцы, а гэта ўсё ж такі мала.

Дзеці яшчэ не спяваюць так як мне хацелася б. У бліжэйшы час буду працаваць індывідуальна з кожным вучнем. Далей буду рабіць дуэты, тэрцэты, хачу арганізаваць калектыў, які не толькі спяваў бы, але і іграў на інструментах, танцаваў, а нават быў тэатралізаваны. Бралі б мы нейкі абрад, „Купалле" ці „Вяснянку", і тэатралізавалі б яго на сцэне. Гэта было б у нас нешта новае. Зараз найбольшую ўвагу кірую на тое, каб дзеці танцавалі. На Беласточчыне многа калектываў, якія спяваюць, аднак тэатралізаваных калектываў вельмі мала, — гаворыць настаўнік музыкі ў Орлі Уладзімір Сахарчук.

### Быць настаўнікам музыкі

нялёгкая праца.

— Найцяжэй навучыць наймалодшых, сямігадовых вучняў, Яны яшчэ не ведаюць ні польскага, ні беларускага пісьма, не ўмеюць чытаць. Трэба аднак ім зразумела растлумачыць, што гэта нотны стаж, што гэта ноты, а гэта не лёгкая, а складаная справа. Бачу аднак, што нейкія эфекты ўжо прыкметны. Наладзіўся ўжо між намі контакт. Дзеці задаволены сваёй працай, я таксама маю настаўніцкую сатысфакцыю. Не адчуваю, проста, цяжару. У мяне ёсць 14 гадзін, якія прысвячаю навучанню ігры на інструменце. 28 вучняў прыходзіць на заняткі па фартэпіяна (паўгадзіны кожнаму). Можа прыйсці кожны, скажам, на 10 хвілін, каб нешта ўзяць з урока. Карыстаемся

### беларускімі падручнікамі — школамі.

Ігры на фартэпіяна вучымся па школе беларускага музыкаведа Яканюка, які сабраў усе сусветныя падручнікі ігры і выдаў спецыяльную беларускую школу пад загалоўкам „Сто ўрокаў піяніста пачаткоўца". Складаецца яна з чатырох частак: „Восень", „Зіма", „Вясна", „Лета". Ёсць яшчэ адна спецыяльная школа „Канікулы". Калі ўжо нехта вучыцца ігры на інструменце, ён павінен іграць кожны дзень, нават у вольныя дні, канікулы. Сярод навучэнцаў ёсць 2 акардэаністы. Навучаю іх таксама паводле беларускай школы ігры на акардэоне. Сам іграю на гітары, і таму ўсе сучасныя песні, якія прапаноўваць вучні, сам апрацоўваю на гітару, — сказаў Уладзімір Сахарчук.



*— Найцяжэй навучыць наймалодшых, — гаворыць настаўнік музыкі ў Орлі Уладзімір Сахарчук.*

19 кастрычніка вучні арлянскай школы наладзілі вогнішча пад лозунгам „Свята печанай бульбы". Уладзімір Сахарчук папулярызаваў песні з выдадзенага БАСам зборніка „Гарыць вогнішча", а таксама апрацаваў, па жаданню вучняў, песню рок-гурту „Неј", якую спявалі аж тры разы. Настаўнік хацеў бы таксама прысвоіць сваім вучням папулярныя песні беларускіх рок-гуртоў — „Мроі" ці „Крамы". Бярэ ён пад увагу зацікаўленні і жаданні вучняў, мае на ўвазе музычны густ моладзі, бо толькі такім спосабам можа поўнасцю выявіць таленты сваіх малодшых артыстаў.

У школе створаны спрыяльныя ўмовы для развіцця мастацкай дзейнасці.

### Дзеці ўжо танцуюць „Лявоніху".

Зараз рыхтуюцца да конкурсу беларускай песні. Настаўнік хацеў бы наладзіць кантакты з падобнымі калектывамі на Беласточчыне і ў Беларусі.

— З Беларусі ёсць каго запрасіць. Дарэчы, многія мае калегі, з якімі я канчаў універсітэт, таксама вядуць дзіцячыя калектывы.

Дапамагчы ў арганізацыйных справах паабяцала дырэктар школы Яўгенія Васілюк:

— У школе маем адпаведныя ўмовы, каб праводзіць інтэграцыйныя мерапрыемствы. А калі была б дапамога з боку войта гміны, мы можам зрабіць вельмі многа, — сказала яна.

І трэба жадаць ім вытрымкі і поспехаў у гэтай нялёгкай справе. З боку бацькоў патрэбная маральная падтрымка, ды не толькі ад іх, але і ўсіх беларусаў. Можа вырасце з гэтай працы і мараў незабыўная „Лявоніха".

**Ганна Кандрацюк**

# СЛОВА БОЖАЕ НА НЯДЗЕЛЮ

## Багач і Лазар

У 20 нядзелю пасля Пяцідзесятніцы прыпадае для чытання ўрывак з 16 раздзела Евангелля паводле Лукі — прытча пра багача і Лазара. Багач, гэтак жа як і ягоныя браты, жыў бестурботна і раскошна. Лазар — бяздомны і бедны ляжаў ля варотаў багацея, разлічваючы прынамсі на рэштткі з ягонага стала, але не давалі яму нават гэтага. У свой час памерлі яны абодва і Лазар апынуўся „на Аўраамавым лоне", багач жа ў пекле. На просьбу аблягчыць яму ягоныя пакуты багачу было сказана: „Прыпомні, што ў жыцці тваім ты меў добрае, а Лазар благое; цяпер жа ён пацяшаецца, а ты церпіш вялікія мукі". Калі папрасіў стварыць яму магчымасць прынамсі папярэдзіць ягоных братоў, каб апамяталіся і пазбеглі такога ж лёсу, багач пачуў строгі адказ: „У іх ёсць Майсей і прарокі, хай іх слухаюць, а калі іх не слухаюць, то калі б хто і з памёршых уваскрос — не паверыць".

Багач і Лазар — адзін з найбольш яркіх, звышчасовых евангельскіх сюжэтаў. Падобныя ім людзі жылі і жывуць у кожную эпоху. Перасычанасць адных і галаданне іншых, роскаш і пакуты — адвечныя з'явы. Пасля 20 стагоддзяў ад евангельскіх часоў, свет поўны людзей багатых і бедных, прычым багатыя пераважна яшчэ больш багацеюць, а беднякі — бяднеюць. Аднак непазбежна прыходзіць час, калі заслона ападае і працяг наступае ўжо ў іншым свеце, перад абліччам Бога, да Якога належыць суд і апошняе слова.

Евангелле ставіць націск не на безумоўнае ўстанаўленне справядлівасці, але на ейны духоўны аспект. Не было заслугай аднаго, што нарадзіўся ў палацы, ні віною другога, што ўсё жыццё быў бяздомны. Багач быў асуджаны не за само багацце, але за дрэннае і самалюбнае карыстанне ім. Лазар таксама быў збаўлены не за сваю беднасць і не дзеля самой кампенсацыі крыўдаў перажытых у зямным жыцці. Ён пакорна цярпеў сваё гора, магчыма, як заслужанае, нікога не праклінаў і нікога не вінаваціў. Калі аднак багачу сумленне дазваляла банкетаваць на вачах змізарнелага, галоднага Лазара, дык ён перабраў меру. Людзі могуць сабе, быццам евангельскі багач, разлічваць і спадзявацца толькі на зямное жыццё, але яны расчаруюцца. Бог аддасць кожнаму паводле заслугаў, калі не ў гэтым, дык у будучым жыцці...

Евангельская прытча пра багача і Лазара не хваліць няроўнасці. Яна проста канстатуе той сумны факт, што гэтак як неаднолькавыя дрэвы ў лесе, пры любым грамадскім ладзе ўсё роўна будуць дыспрапорцыі. Румынскі дыктатар Чаўшэску захапляўся сацыялізмам але не сабе, а толькі народу запэўніў ён роўнасць у галечы. Партыйныя наменклатуршчыкі таксама гаварылі пра роўнасць і справядлівасць, але жылі як магнаты. Калі ніякая грамадская сістэма не гарантуе роўнасці, дык справа прынамсі ў змякчэнні праблемы. Бальшавікі лічылі, што можна „грабіць награбленае", што калі нехта мае дзве кашулі, трэба яму забраць адну або нават абедзве, але рэвалюцыі і гвалты не прынеслі дабрабыту.

Евангелле вучыць, што галоўная прычына ўсіх бедаў і несправядлівасці не матэрыяльная, але духоўная. Усяму вінаваты чалавечы эгаізм, няўвага да праблемаў іншага чалавека, адвечны дэфіцыт дабра і міласэрнасці. Багач меў права быць багаты гэтак, як сучасны прадпрымальнік не мусіць быць злодзеем. Святы Іаан Залатавуст гаварыў: „Я не супраць твайго багацця, а супраць тваёй скупасці". Багач быў проста маральна абавязаны не дазволіць, каб ля ягоных варотаў ляжаў бяздомны і галодны Лазар. Такое нахабнае, самалюбнае багацце стане косткай у горле нават ужо ў гэтым жыцці...

Евангельскі сюжэт з багачом і Лазарам праўдападобна будзе бясконца паўтарацца ва ўсе часы і людзі будуць бясконца намагацца справіцца з гэтай ненармальнасцю. Для вернікаў, у гэтым пытанні, аўтарытэтнымі павінны быць словы Святога Пісання: „Не меў лішняга, хто меў многа, і хто меў мала не меў недастатку".

**а. Канстанцін Бандарук**

# АБ СЯМІ ЮНАКАХ У ЭФЕСЕ

У палове III стагоддзя жылі ў Эфесе сем маладых хрысціян. Былі яны дзецьмі багатых бацькоў, а спалучала іх дружба і вера ў Хрыста. Называліся яны: Максіміліян, Іамвліх, Мартыніян, Іаан, Дыянісій, Ексакустадыян і Антанін. Гэтая гісторыя здарылася каля 250 года ў час праследаванняў імператара Дэкія (249—251). Аднойчы ў Эфес прыбыў сам імператар і загадаў усім падрыхтавацца да ахвярапрынашэння. Да гэтага язычніцкага абраду прымушалі таксама хрысціян, а тых, якія адмаўляліся, аддавалі на пакуты. Целы замучаных хрысціян пакідалі пры дарогах, а іх галовы насаджалі на капʼі і ставілі пры гарадскіх брамах. Юнакі бачылі ўсё гэтае і, праводзячы час на малітвах, аплаквалі пакуты і смерць сваіх адзінаверцаў. Падчас такой малітвы пабачылі іх даносчыкі і далажылі аб гэтым Дэкію. Сем юнакоў, якіх паставілі перад абліччам імператара, адмовіліся прынесці ахвяру і пакланіцца язычаскім бажкам. Імператар вырашыў, аднак, даць ім трохі часу, каб абдумаліся, а сам пераехаў у іншы горад. Юнакі пастанавілі пайсці ў адну пячору за горадам, каб там у малітвах прасіць Бога даць ім сілу перанесці непазбежныя пакуты. Пячора знаходзілася ля падножжа гары Ахлон на ўсход ад Эфеса. Наймалодшы з юнакоў Іамвліх хадзіў у горад за харчамі. Аднойчы ўбачыў ён вяртанне імператара і пачуў, як было абʼяўлена, што назаўтра адбудзецца чарговае ахвярапрынашэнне. Падмацаваўшыся хлебам, юнакі задрамалі, але ў той момант Гасподзь загадаў ім заснуць асаблівым сном, каб такім чынам паказаць вялікі цуд. Святыя юнакі заснулі смяротным сном, але іх целы засталіся нятленнымі, а душы ахоўваў Бог.

Іхнія бацькі на допыце сказалі, што людзі бачылі юнакоў у пячоры за горадам. Тады імператар Дэкій загадаў уваход у пячору загарадзіць вялікім валуном, каб яны загінулі там галоднай смерцю.

З часоў Канстанціна Вялікага пачалася эпоха хрысціянскіх імператараў, а адным з іх быў Феадосій II Малодшы (408—450). Зʼявіліся тады ерэтыкі, якія абвяшчалі, што не будзе ніякага ўваскрэсення. Забылі яны аб словах запісаных у Біблії: „Памершыя пачуюць голас Сына Божага і, пачуўшы, ажывуць" (Іаан, 5:25); „і многія, якія спяць у праху зямлі, прачнуцца, адны для жыцця вечнага, а другія на вечнае ганьбаванне і знеслаўленне" (Данііл, 12:2), таксама „вось, Я адкрыю магілы вашы і выведу вас, народ Мой, з магіл вашых" (Іезекііль, 37:12). У той час святыя юнакі, па волі Божай, прабудзіліся і падумалі, што яны ўсталі пасля звычайнага сну. Целы іх былі некрануты, так як і вопратка. Максіміліян сказаў астатнім, што спярша трэба ім падсілкавацца трохі хлебам, а потым пайсці памерці за Хрыста — свайго Бога і Збавіцеля. У горад паслалі наймалодшага Іамвліха. Той не мог распазнаць Эфеса, пабачыўшы новыя будынкі і выявы крыжа над гарадскімі брамамі. Калі ён прадаўцу хлеба працягнуў сярэбраную манету з выявай язычніцкага імператара, які ўжо даўно памёр, той падумаў, што паходзіць яна са знойдзенага скарбу. Юнака затым пабілі, а калі праследавацелі не атрымалі ніякіх інфармацый, аддалі яго ў рукі ўпраўляючаму горадам саноўніку. Той, думаючы аб нібыта знойдзеным скарбе, таксама адмоўна паставіўся да юнака. Прысутны пры гэтым епіскап Эфеса з таго, што гаварыў Іамвліх, пачаў рабіць вывад, што Бог хоча адкрыць ім нейкую тайну. Тлумачэнні юнака, што яшчэ ўчора бачыў ён Дэкія, нічога не высветлілі, і тады перапалоханы і нічога не разумеючы Іамвліх завёў іх у пячору. Ля ўвахода, пры валуне былі знойдзены дзве свін-цовыя пліткі, на якіх адзін хрысціянін — сведка завалкі ўвахода ў пячору, коратка апісаў гісторыю сямі отракаў. Тады ўсе зразумелі, што яны — сведкі вялікага цуду і пакланіліся перад Святымі Юнакамі, усхваляючы Бога.

Неўзабаве ў Эфес прыбыў сам імператар Феадосій і пакланіўся Сямю Юнакам. Паводле грэчаскага гісторыка Нікіфара Каліста, імператар правёў на размовах з імі сем дзён, пасля якіх Святыя Юнакі заснулі, але гэтым разам, па волі Божай, ужо сапраўдным смяротным сном. Іх целы пачаткова знаходзіліся ў спецыяльна падрыхтаваных саркафагах зробленых са срэбра і золата, але потым, пасля зʼяўлення іх у сне самому імператару, зноў іх перанеслі ў пячору.

Аб гістарычных доказах гэтага цудоўнага здарэння сведчыць сучасны яму прападобны Іаан Колаў (I палова V стагоддзя) у жыцці Святога Паісія Вялікага. Здарылася гэта праўдападобна каля 430 года, паколькі ў 431 годзе ў Эфесе адбыўся III Усяленскі Сабор і гэта вестка хутка разышлася па ўсім хрысціянскім свеце.

Памяць Святых Сямі Юнакоў з Эфеса ўшаноўваем 4 лістапада (22 кастрычніка па старому стылю). Моляцца Ім у выпадку пакутаў з прычыны бяссонніцы, просячы спакойнага і лячэбнага сну.

**С.Н.**

# Змітраўская бацькоўская субота

Прыпадае яна ў суботу перад Святам Вялікамучаніка Дзмітрыя Салунскага, якое ў гэтым годзе адзначаецца 5 лістапада. Тыя з нас, хто 1 лістапада пабывалі на магілах сваіх блізкіх, павінны яшчэ памятаць, што для праваслаўнага хрысціяніна Царква ўстанавіла некалькі адмысловых дзён у годзе для малітваў за ўпакой душы памерлых.

Вось яны:

— Мясапусная субота (перадапошняя субота перад пачаткам Вялікага Посту),

— 2, 3 і 4 суботы Вялікага Посту,

— Радаўніца, аўторак другога тыдня пасля Пасхі; у мясцовай традыцыі ў пасхальным перыядзе моляцца за памерлых таксама і на трэці дзень Пасхі і ў нядзелю Антыпасхі, інакш у Фаміну нядзелю (Апостала Фамы),

— Троіцкая памінальная субота — перад днём святой Тройцы (Сашэсцем Святога Духа на Апосталаў),

— 11 верасня (29.08 па ст. стылю) — Усекнавенне Галавы Св. Іаана Хрысціцеля; ушаноўваецца памяць праваслаўных салдат, загінуўшых на полі бою,

— субота перад днём Вялікамучаніка Дзмітрыя Салунскага — 8 лістапада (26.10 па ст. стылю).

**С. Сулковіч**

# Зʼезд Брацтва Беластоцка-Гданьскай епархіі

16 кастрычніка г.г. у прыходзе Св. Прарока Ільі ў Беластоку-Дайлідах адбыўся Х Зʼезд Моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі сумесна з выбарамі ў Епархіяльную раду моладзі. У зʼездзе прыняло ўдзел каля ста дэлегатаў ад паасобных прыходаў.

Сустрэча пачалася Літургіяй, пасля якой адбыўся Хрэсны ход вакол царквы. Пасяджэнне пачаў архіепіскап Сава, які ў сваім слове падкрэсліў, што гэты дзень павінен быць свайго роду святам для моладзі епархіі. Працу Рады за апошні год ацаніў ён як стабільную і станоўчую. Прыгадаў таксама, што ў сваёй дзейнасці Рада павінна памятаць, каб усё рабіць дзеля імя Божага і славы Царквы. Уладыка падкрэсліў значэнне моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі ў дзейнасці ўсяго Брацтва. Пасля справаздачы старшыні Марка Масальскага голас узялі госці зʼезда, а сярод іх архімандрыт Міхал — грэк з місійнага прыхода ў Прэторыі



*Выступае а. Мікалай Баравік.*

(Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка) і група лютэран з зямлі Рэйнланд-Пфальц (Нямеччына). Айцец Серафім Жалезняковіч звярнуў увагу на неабходнасць большай актывізацыі моладзі сярэдніх школ. Адзін з колішніх лідэраў прыгадаў, што мэта Брацтва — на першым месцы ставіць духовыя справы, вывучэнне і паглыбленне сваёй Веры. Усялякія іншыя формы дзейнасці павінны быць толькі дадаткам і не могуць мець рашучага ўплыву на працу Брацтва.

У выніку галасавання была выбрана новая Епархіяльная рада моладзі, якую паўторна ўзначаліў Марк Масальскі з Беластока. Чарговым пунктам павесткі дня была дыскусія ў трох групах, якая засяродзілася на актуальных пытаннях і задачах — на справе духоўнасці, дзейнасці з карысцю дзяцей (лагеры, ёлкі і т.п), выдавецкай справе, лепшых кантактах з моладдзю сярэдніх школ і вясковых прыходаў і на ўключэнню яе ў дзейнасць Брацтва.

Вечарам служыўся акафіст прысвечаны заступніку прыхода ў Засцянках — Святому Вялікамучаніку Панцеляймону. Апошнім пунктам зʼезда было вогнішча на царкоўным пляцы, якое запаліў уладыка Сава. Згуртаваная вакол вогнішча моладзь пякла каўбаскі і прыемна бавіла час. Не абышлолся таксама без народных беларускіх песень.

Добра было б, каб Епархіяльная рада моладзі пры Беластоцка-Гданьскай епархіі, улічваючы прыярытэт спраў веры, не забывала таксама аб культываванні элементаў беларускай культуры, хаця б у форме спявання нашых песень, вядома, у адпаведных часе і месцы.

**С. Сулковіч**
**Фота аўтара**

# АПОШНЯЯ ХВАЛЯ

У вёсцы Антонавічы, што знаходзіцца ў 20 кіламетрах ад Беластока, у палове пяцідзесятых гадоў нараджаліся адны хлопцы. Была гэта апошняя вялікая дэмаграфічная хваля, якую выдала вёска. Старыя бабы мармыталі штосьці, што гэта нядобры знак, які абазначае вайну ў недалёкай будучыні. Але хлапчукі раслі і паводзілі сябе як усе іх равеснікі — біліся паміж сабою, лаяліся, як дарослыя, а неўзабаве сталі курыць знойдзеныя на вуліцы акуркі або выкрадзеныя з бацькоўскіх кішэняў папяросы. У школу таксама хадзілі, але апошняй мэтай іхняй там прысутнасці была патрэба ведаў. Нармальныя дзеткі: раз падпалілі вёску, але толькі ў раннім дзяцінстве.

Настаўніцкія кадры заўсёды з'яўляюцца вясковай элітай. Кіраўнічка школы ў Антановічах мела нават за сабой паспяхова здадзены экзамен сталасці. Апрача яе за асвятленне мазгоў вясковых жулікаў змагаліся штогод новыя піянеры прагрэсу на правінцыі. Былі гэта ў большасці маладыя хлопцы і дзяўчаты, якіх беластоцкая куратория кідала туды, быццам бы рабінзонаў на невядомую ім зямлю. Некаторым не пашанцавала ў ліцэі ці тэхнікуме, мелі за сабой 2—3 класы сярэдняй школы і пані кіраўнічка глядзела на іх з пачуццём інтэлектуальнай перавагі.

У школу ў Антонавічах — як і ў кожную іншую — хадзілі добрыя і марныя вучні. Ніхто, аднак, тут не ведаў, чаму адзін мае пяцёркі, другі тройкі, хаця той другі ўмеў больш за першага, а трэці — таксама тройкі, хаця нічога не ўмеў. Часам нават вучні пераконваліся ў тым, што цуды здараюцца на зямлі — дэбіл за адну ноч пераўтвараўся ў генія і ў дзённіку замест двоек красаваліся чацвёркі.

„Апошняя хваля" хлапчукоў у Антонавічах аказалася занадта вясёлай грамадой. Апрача Андрэя Андрэевіча, які заўсёды — нават у сёмым класе — узорна адказваў на пытанне: „Які горад ёсць сталіцай Польшчы?" і з усіх прадметаў зверху ўніз меў самыя пяцёркі. Усе іншыя былі нармальнымі вучнямі. Андрэй не курыў ні „спортаў", ні „гевонтаў", такі сабе псіхалагічны тып Паўліка Марозава 60-х гадоў. Нават не скрываўся з тым, што быў даносчыкам. Быў — паводле кіраўнічкі — прыкладам для разбэшчанай антановічаўскай хеўры, аднак ахвотных ісці яго следам не было зашмат і наадварот, кожны лічыў дзень патрачаным, калі ў якісьці спосаб не надакучыў Андрэю.

Час ляцеў хутка. Мацвей і Дзмітрый шаснаццатую гадавіну з дня свайго нараджэння святкавалі ў шостым класе. Андрэй вучыўся ў ліцэі, Іван, Сцяпан, Уладзіслаў, Алесь і Васіль змагаліся за тройкі ў прафесіянальных школах. Івану і Алесю не пашанцавала, вярнуліся на бацькоўскую гаспадарку.

Уладзіслаў і Сцяпан затрымаліся недзе ў Беластоку, але здараліся ім некалькімесячныя перапынкі ў працы, якія ахвотна праводзілі ў роднай вёсцы, сярод сяброў з дзяцінства.

У 70-х гадах Антонавічы былі яшчэ жывым пунктам на Беласточчыне. Аблогаў нідзе не было відаць, статкі кароў пасвіліся на лугах. У суботы і нядзелі да бацькоў з'язджаліся дзеці, да дзядоў — унукі. „Забава" ці дыскатэка арганізавалася ў кожнай другой вёсцы. Хлопцы з Антонавічаў мелі дзе і за што выпіць, было каму „ў морду" даць і з кім у зорную ночку пайсці на шпацыр. У панядзелкі раніцай местачковыя дзеўкі выбягалі з пуняў, спяшаючы расказаць маманькам аб тым, як пасля дыскатэкі прыснулі ў вясковых сябровак у хаце.

Была геркаўская эпоха, былі грошы, было весела. Хлопцы з Антонавіч працавалі трактарыстамі на сацыялістычных гаспадарках. Сацыялістычнымі трактарамі аралі поле сваё і кожнага іншага дзядькі, які разумеў моладзь і прынцыпы сацыялістычнай гаспадаркі. Кожная, аднак, праца мае антыгуманны характар і таму нашыя сябры рабілі ўсё, каб нідзе затрымацца не даўжэй, чым некалькі месяцаў. Заўсёды была ж у запасе бацькоўская гаспадарка. Нават замуленыя алкаголем мазгі падказвалі Івану, Мацвею, Алесю, Дзмітру браць крэдыты і купляць, што толькі ўдасца. Бацькі аддалі ім свае гаспадаркі. Алесю і Івану пашанцавала нават ажаніцца. Жонкі іхнія не былі прыгажунямі, але і яны, нарадзіўшы пару дзетак, пакінулі сваіх маладых мужоў. Вясёлая кампанія пашыралася; далучыліся да яе чырвонаносыя „рабяты" з суседніх вёсак. Пілі ўсё, што пахла алкаголем. Калі ад перапою памёр 48-гадовы Паўлюк Міхальчук, сябры падымалі тосты за яго вечную памяць амаль тыдзень.

Першы з кампаніі адышоў Мацвей. Жыў адзінока. Маці ўцякла ў Беласток да дачкі. Калегі, успамінаючы Мацвея, гаварылі, што апошніх пяць дзён свайго жыцця нічога не еў — мог толькі піць і курыць. Нават яго ўлюбёныя салёнае сала з агуркам зусім яму не смакавалі. Так у сапраўднасці ніхто не ведае як закончыў жыццё гэты 32-гадовы хлопец. Зласліўцы шэпчуць пра самагубства.

Івана жонка кінула пасля чатырох гадоў зусім нянуднага сужонства. Ён сам быў таленавітым чалавекам, хапаўся ўсялякіх заняткаў — гандляваў, пазычаў грошы, купляў машыны, гадаваў кароў, курэй, гусей. Часам меў вялікі прыбытак. І тады пачыналася парумесячнае святкаванне і трывала, пакуль быў які-небудзь малаток для продажу. Пасля пачынаў нанава. Будучы ў святочным настроі, трапіў сваім аўтамабілем у прыдарожнае дрэва. Доўга не мучыўся.

Такога здароўя як Дзмітрый ніхто ніколі не меў — гаварылі людзі ў Антонавічах. Часам прыйшлося яму задрамаць на снезе. Ніхто іншы без лекара не пераможыў бы такога белага сну. А ён, ацверазеўшы, уставаў і ішоў дахаты. Дзмітрый быў надзвычай працавітым чалавекам. Калі не быў адурманены „агністаю вадою", працаваў за двух. Яго гаспадарка — хаця жыў таксама адзінока — была заўсёды заарана і засеяна. Плён, аднак, на некалькі спосабаў пераўтвараўся ў спіртныя напоі. У канцы ў ягоным арганізме знайшліся слабыя пункты — не вытрымалі нервы. 35-гадовага мужчыну стаў праследаваць чорт. Дзмітрый бачыў яго ўдзень і ўночы. Перастаў піць, чарцей паказваў сваякам, але яны нічога не бачылі. У доме — расказваў суседзям — нешта то вые, то свішча.

Не стрымаў Дзмітрый чартоўскіх візітаў. Напісаў завяшчанне, памыў хату і развітаўся са светам.

З вясёлай антонавічаўскай кампаніі асталіся на вёсцы, з усё больш сінім носам, Алесь, стары кавалер Антон Карп, пенсіянеры і дэбілаватьі Мечыслаў Бусел. Выглядае на тое, што новае стагоддзе ў вёсцы вітаць будуць толькі нашчадкі Мечыслава. Калі Буслу было 15 гадоў, ён усё яшчэ вучыўся ў 5 класе. Лекары злітаваліся над ім і настаўнікамі і звольнілі яго з абавязку далейшай адукацыі. Мечыслаў памагаў бацьку, бегаў з сабакам па лесе, а ў кожную нядзелю маці везла яго 8 кіламетраў у касцёл. Калі яму было пад трыццаць, ажанілі Меця. „Свое людзе" дапамаглі знайсці жонку. Дзеўка на дрэва не ўцякала, пісаць і чытаць нават умела і сыноў нарадзіла... Найстарэйшы ўжо ў 6-м класе. Ён — адзіны ў вёсцы вучань і вельмі любіць ездзіць на трактары. А навокал вёскі ляжыць нічыя зямля.

**Васіль Кургановіч**

P.S. Усё вышэйнапісанае, апрача імёнаў і прозвішчаў людзей і назвы вёскі, ёсць праўдай.

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ

**(9)**

## Адкуль узяліся назвы вёсак?

**Падазераны** — этнаграфічная назва; першапачаткова так называлі людзей, пражываючых у вёсцы распаложанай над возерам або каля возера. Па сённяшні дзень народная назва вёскі, як і назва яе жыхароў — аднолькавыя. Назва пасялення Падазераны выступае ў рукапісных дакументах ад 1623, 1750 і 1784 гадоў.

Багатае і складанае мінулае Падазеран наслаілася між іншым у назвах урочышчаў, лугоў і палёў. Для прыкладу пералічым назвы лугоў: Аколіца, Асоў Груд, Азерына, Брухаво, Бусляніца, Доўге Балото, Кіево, Палец, Паперэчная і Прагон. Мясцовыя назвы палёў: Баленца, Чтэры Загоны, Дзервеле, Дзікавіца, Гай, Гарбачова Шыя, Гліціска, Груд, Каля Крыжыка, Канцы, Клінкі, Ласы, Лужкі, Нандаткі, Падлясок, Седліско, Стойло, Шлепёты, Шырокі, Тры Загоны і Збіска.

У Падазеранах — на скрыжаванні дарог з Падазеранаў у Ялоўку, у Новую Луплянку, у Вейкі і ў Міхалова — калісь стаяла карчма.

Зараз Падазераны — вялікая салэцкая вёска. У ёй пражывае 211 чалавек.

**Падзалукі** — тапанімічная назва; пасяленне пад вёскай *Залукі* (яны з канца XVII стагоддзя) ды над ракою Супраслю. У 1925 годзе Падзалукі налічвалі 52 чалавекі. Цяпер у вёсачцы пражывае ўсяго 29 асоб, у тым ліку трынаццаць ва ўзросце 60 гадоў.

**Пераходы** — культурная назва; *пераходы* — месца, дзе дзікія звяры пераходзілі з адной пушчы ў другую, у тым выпадку з Ялоўскай пушчы ў Сабалеўскую і наадварот.

Вёска на ўскраіне вялікага ляснога комплексу Кнышынскай пушчы над рэчкай Плоскай (Плёскай). Каля вёскі, з боку Займы, узгорак вышынёю ў 172 метры над узроўнем мора.

У міжваенны перыяд Пераходы налічвалі 113 жыхароў. Цяпер пражываюць тут 53 чалавекі.

**Пясчанікі** — тапанімічная назва (недзе каля 1795 года пасяленне называлі *Пясчаннік* і *Пясчанік*). Назва мясцовасці ўзялася праўдападобна ад пясчанай глебы ў гэтай аколіцы. Пасяленне заснаванае ў другой палове XVIII стагоддзя. Вядомым стала з той пары, калі тут адбыўся бой паўстанчага атрада, якім камандаваў Духінскі, з царскімі войскамі ў 1863 годзе. У канцы XIX стагоддзя працавала тут тэкстыльная фабрыка.

Вёска знаходзіцца над безыменным ручаём, левым прытокам Супраслі. У міжваенны перыяд у ёй пражывала 129 чалавек. Зараз тут 102 жыхары.

**Пілатоўшчына** — прыналежная назва ад асабовай *Пілат* або *Пілят*. У дакуменце ад 1784 года значыцца назва *Пілятоўшчына*. У 1900 годзе ў Пілатоўшчыне пражывалі 24 асобы. Зараз таксама не намнога больш, паколькі сяло налічвае 29 чалавек. Непадалёк ад вёскі цячэ безыменны ручай, ён — правы прыток Супраслі, а таксама рачулка Грыбаўка, прыток той жа ракі.

**Радунін** — прыналежная назва ад асабовай *Радуля* або *Радун*. На карце Соцмана ад 1808 года маем *Радонін*. У рукапісным дакуменце ад 1784 года выступае *Радумін*, у іншых дакументах — ад 1921 і 1924 гадоў — *Радулін* (такую назву мела тады вёска і фальварак). Зараз на картах сустракаем Радулін (карта ад 1991 года) і Радунін (на карце ад 1984 года) над рачулкай... Радулінкай, правым прытокам Супраслі.

У 1925 годзе Радунін налічваў 145 жыхароў. У 1938 годзе тут існавала школа, у якой навучалася трыццаць дзяцей. Зараз у Радуліне, які з'яўляецца салэцкай вёскай, пражывае шэсцьдзесят чалавек.

**Руда-Калёнія** — культурная назва ад *руда*; тут перапрацоўвалі руду жалеза і выплаўлялі жалезныя вырабы. У канцы XVIII стагоддзя тут быў фальварак. У 1925 годзе ва ўрочышчы Руда пражывала трынаццаць чалавек, у 1994 — 22 асобы.

**Сафіпаль** — мемарыяльная назва ад імя *Сафія* ды грэчаскага *поліс* (горад).

Звесткі аб існаванні фальварка Сафіпаль адносяцца да 1878—1886 гадоў. У 1925 годзе тут пражывала семдзесят чалавек, а пяцьдзесят гадоў пазней было тут каля сарака хат і каля ста асоб. Цяпер Сафіпаль налічвае 63 асобы.

Вёску Сафіпаль у ваколіцы называюць **Пярэймай**, а яе жыхароў пярэймянцамі. Назва *Пярэйма* вядомая таксама па гістарычных крыніцах ад 1795 года. Паходжанне назвы *Пярэйма* трэба спалучаць з дзеясловам *пераймаць*. Паколькі вёска ляжыць над невялічкай рэчкай, левым прытокам Супраслі, то першапачатковая назва *Пярэйма* абазначала рэчку, якая пераймае раку Супрасль або рэчку, на якой зроблены запоры для пераймання драўніны.

У 1795 годзе на месцы ўрочышча Пярэйма быў фальварак Сафіпаль. У гады гітлераўскай акупацыі жыхары прыходзілі з вялікай дапамогай партызанам (вёска распаложана на вялікай паляне сярод лясоў).

**Свіслачаны** — этнаграфічная назва, перашпачаткова абазначала жыхароў пасялення над ракой *Свіслач*. Назва пасёлка вядомая ў гістарычных крыніцах ад 1781 года (архіў Віснявецкіх). Свіслачаны ўзніклі каля старога двара Калодзежна ў XVI стагоддзі. Цяпер гэта салэцкая вёска, у якой пражывае 86 чалавек, у тым ліку 49, якім ужо за шэсцьдзесят гадоў. Найстарэйшай жыхаркай з'яўляецца Вера Пугач (нарадзілася яна ў пачатку 1897 года).

**Скраблякі** — радавая назва ад асабовай *Скрабляк*. У Скрабляках, апрача людзей прыбыўшых з-пад Горадні, пражывалі таксама літоўцы. Назва асабовая ад літоўскага *скробляс* (граб). Значыць, гэта тапанім літоўскага паходжання.

Пасяленне значыцца ў пісьмовым дакуменце ад 1558 года. Зараз тут пражывае 54 чалавекі, у тым ліку — 36 пажылых пенсіянераў. Найстарэйшы жыхар — Аляксандр Налівайка — мае 97 гадоў. Наймалодшаму — Веславу Гегелю — 15 гадоў. Дзяцей у Скрабляках няма...

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

## З гараскопа друідаў

**СМОКВА,** *(14 — 23 чэрвеня і 12 — 21 снежня).* Біялагічны род фікусаў, сярод якіх і вядомая ўсім вазонная адмена фікуса, налічвае да 600 відаў, у асноўным трапічных і субтрапічных дрэў і раслін. Да гэтага роду належыць таксама смоква, або фіга. Невялікае дрэва разводзіцца напр. у Закаўказзі як пладовае, так званыя „вінныя ягады" якога выкарыстоўваюцца для вырабу шэрагу лекаў. Пра ўжыванне пладоў смоквы для лячэння „паведамляюць" егіпецкія папірусы.

Тыя, хто нарадзіўся ў дні гэтага дрэва, вельмі ўражлівыя і „закамплексаваныя", не ўсюды адчуваюць сябе добра. Звычайна патрабуюць прастору і цяпла, у неспрыяльных умовах вянуць. Супярэчнасці жыцця адмоўна адбіваюцца на іх самаадчуванні, у такія перыяды імунная сістэма іх слабее. Як ніхто іншы, чалавек гэтага „знаку" адчувае патрэбу кахання і цяпла, мае надзвычай развітае сямейнае пачуццё, адчувае патрэбу сталага кантакту з блізкімі, нават калі тыя не патрапяць належным чынам ацаніць гэтую рысу характару. Гэта асоба — сапраўдны скарб для блізкіх. І калі вам трапіцца смоква, пасадзіце яе ў сваім садзе, даглядайце яе — і не пашкадуеце, асабліва калі хопіць цярпення пачакаць пэўны час, бо ад гэтых дрэў нельга атрымаць цуд адразу.

*(працяг у наступным нумары)*

## З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

*(працяг; пачатак у 21, 31, 33-36, 38-44 н-рах)*

Надзея Руско з Белавежы памятае таксама адну дажынкавую песню і некалькі падпевак. Песня паходзіць, што вынікае з яе зместу, яшчэ з часоў паншчыны. А ў адной з падпевак знаходзім выразны подых уніяцтва.

**Дажынкавая**

Ой, дажалі, дажалі,
сто коп жытка нажалі.
З аднаго каласочка,
коб была жытка бочка.
Збор, жытка збор,
нашаму пану у двор.
Завінелі стадолы,
шчэ ніпоўны староны.
А мы жытко дажнемо
і староны напоўнемо.
Збор, жытка збор,
нашаму пану у двор.

**Падпеўкі**

* * *

Цвіці, расцвітай белая лілія,
дажала жытко найсвентшая Марыя!

* * *

Ой, выглянь, выглянь парапёлачко,
дажалі жытко, ужэ ано толячко!

* * *

Ой, дажалі жытко, дажалі
і выгналі зайца!

**Запісаў Пётр Байко**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 355. Бажэна Магда Пракаповіч (Шчэцін) — 500.000 зл.
4 356. Пётр Германюк (Аўгустаў) — 2.000.000 зл.
4 357. Яраслаў Падолец (Бельск-Падляшскі) — 20.000 зл.
4 358. Галіна Трашчотка (Бельск-Падляшскі) — 50.000 зл.
4 359. Анна Кандрацюк (Нараўка) — 20.000 зл.
4 360. Яўгенія Тхарэўская (Орля) — 50.000 зл.
4 361. Валянціна Шмукста (Кляшчэлі) — 50.000 зл.
4 362. Ніна Харытанюк (Рыбалы) — 50.000 зл.
4 363. Мікалай Федарук (Дубіны) — 20.000 зл.
4 364. Анна Бжазоўская (Бельск-Падляшскі) — 50.000 зл.
4 365. Валянціна Ласкевіч (Беласток) — 100.000 зл.

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне ў апошні час сняцца кепскія сны. Вельмі баюся. Прашу, супакой мяне! А вось мае сны.

Быццам стаім мы з мужам над абрывам. Унізе — цудоўнае мора. І потым ужо няма абрыву, а мы з мужам знаходзімся ў нізіне, у траве. Трава гэта высокая і буйная, але падмоклая. Муж увайшоў у ваду — быццам акунуўся ў гэту траву — і, калі выйшаў, то ўвесь быў абсыпаны нейкай сыпкай.

Пасля сніліся мне цэлую ноч нейкія змеі, вужакі, якія ўвесь час кружыліся вакол мяне. Мне было вельмі непрыемна.

А то прыснілася мне, што ў мяне вылазілі валасы. Быццам я расчэсваюся, а на шчотцы застаецца цэлая куча валос. Я глянула на сябе ў люстэрка, а на галаве, убачыла, усе валасы цэлыя. Расчасалася другі раз, а тут ізноў гісторыя паўтараецца — ізноў поўная шчотка валос, а на галаве ўсе валасы ў парадку.

Што могуць абазначаць гэтыя сны?

**Галіна**

Галіна! Крыху магу супакоіць цябе, але толькі крыху. Нейкія клопаты будуць. Больш датычаць яны твайго мужа (увайшоў у ваду, яго абсыпала сыпкай), але відаць, што вакол вашай сям'і кружацца хітрыя і злосныя ворагі (тыя змеі, вужакі). Ды і валасы ў цябе вылазілі, што сведчыла б аб нейкай страце (можа, грошай).

Але магу крыху і пацешыць цябе: абрыў, які абазначаў бы небяспеку, прапаў, і вы сышлі ў нізіну, дзе ўсё ж расла буйная, хаця і падмоклая трава. Ёсць надзея на добрае завяршэнне справы! Тым больш, што і валасы, хаця нібы вылазілі, то ўсё ж на галаве засталіся ўсе цэлыя.

**Астрон**

## ЖАРТ

Роберт і Моніка жылі згодна і багата. Шмат гадоў вырошчвалі ў цяпліцах гародніну. Збудавалі прыгожы дом, купілі машыну „Опель". Роберт вазіў прадаваць гародніну нават у далёкія ад К. гарады. Жылося ім добра, але дзяцей, на жаль, не дачакаліся. Лекары сказалі, што гэта па віне бацькі.

Аднойчы Роберт ехаў дадому вельмі задаволены — зарабіў вельмі шмат грошай, усё прадаў, і то хутка. Раптам на абочыне дарогі ўбачыў вандруючую толькі ў купальніку дзяўчыну. Затармазіў, запрасіў у машыну. Дзяўчына была не супраць праехацца, і нават запрапанавала прыемна правесці час над возерам, куды якраз ішла.

— Спярша паплаваем, а потым будзем кахацца, — сказала і скочыла ў ваду.

Пакуль Роберт распрануўся, дзяўчына была ўжо далёка. Пакуль даплыў да таго месца, паненка паспела вярнуцца да берага, укінуць яго вопратку ў машыну, завесці яе і з'ехаць.

Роберт кінуўся наўздагон. Хутка нарваўся на паліцэйскі патруль. Як ім не вырываўся, не тлумачыў, — палічылі яго за распусніка, які бегае голым па вуліцах і... спявае: „Ай, гародніна, гародніна, какосавы інтарэс, п... едзе маім „Опелем", а мяне паліцыя вядзе..."

Калі справа выяснілася, за Робертам прыехала жонка. Моніка расхвалявалася, замест пацешыць мужа — пабіла яго, нягледзячы на паліцыянтаў, што хацелі ратаваць мужчыну ад злоснай жонкі.

Жывуць яны далей разам, куды ж дзецца, калі ўжо столькі разам нажылі. Але „Опеля" шкада, да сёння яго знайсці не могуць...

**Аўрора**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. мужчынскае імя, 8. прадмет куплі-продажу, 9. вадаспад у Фінляндыі, 10. даўгавухая жывёла, 11. яўрэйскі святар, 13. мінерал, з якога вырабляюць суперфасфат, 15. рэакцыянер, 16. напр., Беласток, 20. захворванне авечак і коз, 22. 0,001 грама, 23. культавая выява, 27. беларускі народны танец, 29. від папугая, 30 і 31. закаўказская рака, 32. аддзяляе зерне ад мякіны, 33. лячэбнае расціранне цела, 34. верхняя канечнасць.

**Вертыкальна:** 1. белая пажыўная вадкасць, 2. прымацаваная да сцяны дошка для посуду, 4. абласны горад у Расеі, 5. польскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, 6. мастак родам з Беларусі (1887—1985), 7. прыток Обі, 12. недастатковы нагляд, 14. задняя частка галавы, 16. паслядоўны рад аднародных, але мнагастайных прадметаў, 17. прыстасаванне для кіравання, 18. кінематаграфія, 19. $H_2O$, 21. сярэднявяковы французскі ерэтык, 24. касцяк, 25. прэзідэнт ЗША (1969—74), 26. танцавальны спектакль з музыкай, 27. малочны прадукт, 28. салодкі пясок.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 38 н-ра:** курган, піруэт, аптэка, Абакан, Анкара, Самара, амонім, паднос, пасада, страка, карона, ананас.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх і **Рыгор Гайдук** з Беластока.

**МІНІ-ДАВЕДНІК**

**Амальрык** — сярэднявяковы філосаф і тэолаг.

Практычныя парады

# ЯК ЗАВЯЗАЦЬ ГАЛЬШТУК

Да касцюма трэба насіць гальштук, асабліва элегантным мужчынам. Без гальштука не пакажацца публічна сапраўдны бізнесмен; нярэдка ў гальштуку можна сустрэць і модную жанчыну.

Многія мужчыны, асабліва юнакі, не надта ведаюць, як правільна завязаць вузел і таму шукаюць дапамогі ў іншых, або самі завязваюць абы-як. Мне самому прыходзіцца дапамагаць многім у гэтай, здавалася б, не надта складанай, але важнай справе.

Нядбайна завязаны гальштук здараецца пабачыць і ў „вялікіх людзей" у тэлебачанні. Непрыемна глядзець, як пад каўняром кашулі вісіць, перакручаны, быццам хвост свінячы, кавалак тканіны.

А каб вузел быў прыгожы, гальштук трэба вязаць вось так, як на прыложаных да тэксту малюнках (1 — шырокі вузел; 2 — вузкі).

**Ян Міхалюк,**

1.



2.







"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest wyższa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




## Пытанне сябру

Сябра мой лепшы,
Мой сябра адзіны,
Што ж ты глядзішся
Ў трымо паўгадзіны?
Хоць прыгажун ты,
Але ж не жанчына!
Ці ў заручальным пярсцёнку
Прычына,
Што на руцэ ў цябе правай
Смяецца,
А у трымо вунь
На левай здаецца?!

**Станіслаў Валодзька**

## СЕНТЭНЦЫІ

* * *

На звалцы гадоў
ёсць і вартасныя хвіліны.

* * *

Бакал часу
чырванее віном успамінаў.

* * *

Кішэнь дзеля таго,
каб у яе ўсоўваць руку.

* * *

ПаваленЫ дуб, як выкінуты
на бераг кіт, ляжыць на пляжы
людскога сумлення.

* * *

Юр еўнуха студзіць прагавітасць
губ.

**БАРЫС РУСКО**

### КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

* Калі ў вас няма грошай, аб'явіце галадоўку.

* Калі вы не маеце магчымасці сядзець дома, хадзіце на работу.

* Калі ў вас няма жонкі, купіце папугая.

* Калі вы моцны прыхільнік эканоміі часу, не кладзіцеся спаць увогуле.

* Калі вы не любіце піва, піце гарэлку.

* Калі вы хочаце пасмяяцца, чытайце „Ніўку".

**Уладысь Цвяткоў**



Мал. Я. Бусла

## Дашабулдыхаўся

— Добры дзень, суседка! А дзе ж твой муж, нешта не бачна, мо захварэў?

— У бальніцу мой Рыгор трапіў. Праз сваю звычку дурную. Ніводзін чалавек праз акно не выходзіць на вуліцу. А ён паняў моду: ускочыць раніцой з ложка і — шабулдых з падаконніка ў сад. Да туалета, кажа, намнога бліжэй. Вось і даскакуўся.

— Гэта ж як?

— А так. Пазаўчора паехаў у госці да сына ў горад. Выпілі, мусіць, там трохі. Застаўся начаваць. А пад раніцу і шабулдыхнуў па звычцы праз акно. З трэцяга паверха.

**Я. Хрыстоўскі**

## Смех у санаторыі

— У калідоры чакае вас з букетам кветак шчаслівы бацька, — гаворыць акушэрка да шчаслівай маці. — Ці прывесці яго да вас?

— У ніякім выпадку! Сюды ў кожную хвіліну можа з'явіцца мой муж.

* * *

У кіно малады мужчына кладзе руку на калена сядзячай побач дзяўчыны.

— Вы хіба памыліліся, — звяртае ўвагу дзяўчына.

— А што, гэта ваша калена?

* * *

Дзве сяброўкі доўга не бачыліся:

— Як сябе адчувае твой муж?

— Апошнім часам зрабіў вялікую памылку: назваў мяне ідыёткай.

— І як ты паставілася да гэтага?

— Тыдзень пазней стала ўдавою.

* * *

— Мой муж пасля вяселля моцна змяніўся.

— Чаму?

— Перад шлюбам гаварыў, што ў яго ляжыць на сэрцы, а цяпер расказвае, што сядзіць у пячонках.

* * *

Гутараць два сябры:

— Бачу, што вырэзваеш артыкул з газеты; пра што ў ім пішуць?

— Пра тое, як адзін муж забіў жонку, якая яму штодзённа правярала кішэні.

— І што зробіш з гэтым артыкулам?

— Пакладу ў кішэню.

* * *

— Ці гэта праўда, што жонка цябе пакінула?

— Не, няпраўда: у яе ўсё канчаецца на абяцаннях.

* * *

— Прысягні мне, — гаворыць жонка мужу, — што калі будуць мяне хаваць, будзеш ісці поруч маёй мамы.

— Ну, добра, хаця гэта псуе мне настрой на цэлы дзень.

* * *

— Чаму дагэтуль ты не выйшла замуж?

— А навошта? У мяне ёсць сабака, які бурчыць, папугай, які лаецца і кот — начны валацуга.

* * *

Пасля вяселля муж звяртаецца да жонкі:

— Дарагая, прышый мне гузік да кашулі.

— А які? Бачу, што двух няма.

* * *

— Сёння была я ў лекара, — гаворыць жонка мужу. — Паказала яму язык, а ён мне запісаў лек на падмацаванне.

— О Божа! Хіба не на падмацаванне языка?!

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

## ШАКАЛАДКА

Я ўскочыў у тралейбус і стаў разглядацца ў пошуках свабоднага месца. На жаль, усе месцы былі заняты.

У двух кроках ад мяне стаяла жанчына ў гадах з сумкай у руцэ, а проста перад ёй сядзеў хлопчык гадоў дзесяць-дванаццаць.

„Ну і няветлівы! — падумаў я не зводзячы з яго вачэй. — Каму ж, як не яму, уступіць месца жанчыне?" І я, не чакаючы, пакуль ён сам здагадаецца, сказаў:

— Слухай, ты ў школу ходзіш?

Хлопчык скоса глянуў на мяне.

— А што такое? Хаджу...

— А ў які клас?

— Ну, у пяты...

— Маладзец! А як цябе завуць?

— Міца... А навошта?

— Міца, зрабі ласку і ўступі месца!

Хлопчык робіць выгляд, што не чуе мяне, і глядзіць у акно. Я зноў паўтараю яму, але ён нават вухам не варухне.

„Ну і ўпарты, — раззлаваўся я, — пачакай!"

— Паслухай, хлопча, я дам табе шакаладку, толькі ўступі месца, — сказаў я і пабачыў, як малы грубіян адразу павярнуў галаву і з цікаўнасцю паглядзеў на мяне.

— А ты не маніш?

— Не, гавару зусім сур'ёзна.

Я выняў з кішэні плітку шакаладу і працягнуў хлопчыку. Той хуценька падхапіўся і стаў збоку. Тады я, трыумфуючы, звярнуўся да жанчыны з сумкай:

— Прашу, сядайце!

Яна здзіўлена паглядзела на мяне, быццам бы не разумела, сур'ёзна гавару я, ці жартую, але потым села і сказала хлопчыку:

— Сынок!

— Што, мама?

— Не забудзь падзякаваць дзядзю за шакаладку!

**Васіль Кішкан**




Мілае Сэрцайка! Мне 38 гадоў. Некаторым здаецца, што я яшчэ бабка хоць куды, дык са здзіўленнем махаюць галовамі: „Ай-яй-яй! Такую жанчынку ды кінуў муж!" А мне ад гэтага не лягчэй.

Праўду сказаўшы, дык у нейкай ступені мне палягчэла. Адчула сябе вольнай, не, не ад яго кахання, а ад вечнага непакою: дзе ён? з кім спіць сёння? ці не трэба будзе ізноў плаціць аліменты (адны ўжо плацім — дзіця нарадзілася ў часе, калі мы 5 гадоў ужо былі мужам і жонкай). У нас дзяцей няма, і гэта быў мой страшны боль, бо я не магу мець дзяцей, а муж мяне ўвесь час дакараў гэтым. Мо таму і не выгнала тады, калі даведалася, што маладзенькая дзяўчына нарадзіла ад яго дзіця. Але ж тады не адышоў ад мяне. Відаць, пачуцці да мяне былі ў яго мацнейшыя, чым да тае дзяўчыны. А цяпер адышоў.

Відаць, закахаўся. А я ўжо нават не думала, што ён калісьці рашыцца на такі крок. Столькі ж гэтых дзяўчат ужо было! Хоць на момант — але каб новая...

Ну, дык я адчула сябе вольнай. Нарэшце не мушу яго чакаць у непакоі — прыйдзе ці заначуе па-за домам, прынясе якую хваробу ці не, у чарговы раз скажа мне сяброўка, што бачыла яго з іншай, ці не... Ну, і... магу сустракацца з кім хачу.

Нарэшце, думала я, змагу пажыць так, як ён жыў усё жыццё. Фактычна, дык магла я і раней рабіць тое, што ён — ці ж ён бы меў час, каб гэта заўважыць! І не была гэта нават справа сумлення, што вось, маўляў, я яго жонка, дык такога рабіць нельга. Проста я яго да такой ступені кахала, што не магла глядзець на іншага, хаця аматараў, каб са мной сустракацца, было нямала.

Ну, але цяпер магу. Пачуцці да мужа я здушыла ў сабе, засталіся недзе глыбока на дне маёй душы. Закахаюся ў першага-лепшага! Запрасіла да сябе сяброўку і двух знаёмых мужчын. Было прыемна, не скажу. Калі выпівалі, закусвалі, расказвалі анекдоты, смяяліся, ніхто нават слоўцам не даў мне зразумець, што на сэрцы маім можа быць горка. А ведалі ж, што я засталася адна. А пасля пайшлі ў пасцель, сяброўка — з адным, я — з другім.

Сяброўка гучна смяялася ў другім пакоі, чуваць аж у маім пакоі былі іхныя залёты, паенкванне, а мне было не да гэтага. Ну, не магла я спаць з чужым мужчынам і ўсё. Што не рабіла, як не старалася, не магла з сябе выкрасаць ані крышынкі не то што пачуцця, але нават нейкай ахвоты.

Ён запаліў святло. Пачаў аглядаць мяне, абцалоўваць. Мне стала сорамна, што ён бачыць мяне голую. Прыгожае цела, якое раней было прадметам майго гонару, мне хацелася схаваць пад коўдру, быццам, знявечанае мужам, не магло ўжо яно падабацца ніякаму мужчыну. Так у нас нічога і не выйшла, бо праз нейкі час і ў яго прапала ахвота.

І вось я цяпер пакуль што адна. Больш не прабую ні з кім сустракацца. Навошта? Каб скампраметавацца перад партнёрам і ў самой каб застаўся прыкры асадак?

Ці маю я рацыю, Сэрцайка?

Ёля

Ёля! Час — гэта лекар, які добра загойвае раны. Застанься пакуль што пры каве ў кавярні, анекдотах, святочным прыёме ў цёці. Твой муж цябе параніў страшна, а рабіў гэта так доўга, што нялёгка будзе табе прыйсці ў сябе адразу. Замест пра радасць ты думаеш пра боль, прывязана да яго як сабака. Як бачыш, не заўсёды бывае так, што клін выбіваюць клінам. З часам, мяркую, знойдзецца ўсё ж нехта, пры кім табе ізноў захочацца распранацца і паказаць сваё цела.

Сэрцайка